PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 29 (2201) Год XLIII Беласток 19 ліпеня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## *Прывітанні беларускаму народу*

Гадавін і ўгодкаў незалежнасці Беларусі — не менш за лік афіцыйных дзяржаўных моў у гэтай краіне. 25 сакавіка (1918 г.) — дзень абвяшчэння III Устаўной граматы; адзначаецца ён беларускімі асяродзямі па-за Рэспублікай Беларусь. 27 ліпеня (1991 г.) — дзень абвяшчэння парламентам Беларусі дэкларацыі незалежнасці; адзначаўся ён пакуль той жа парламент не быў пазбаўлены цяперашнім прэзідэнтам правамоцтваў. 3 ліпеня (1944 г.) — дзень вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў; адзначаецца цяперашнімі ўладамі Беларусі. Няма ў такой разнавіднасці нічога дзіўнага, калі добра ўдумацца ў сэнс кожнай гадавіны. Ветэраны Вялікай Айчыннай вайны складаюць ці не найістотнейшую частку грамадскай свядомасці сучаснай Беларусі. 27 ліпеня з усім гаспадарчым і палітычным лібералізмам 1991 года звычайна не мела шанцу прыжыцца, а 25 сакавіка з'яўляецца ўсяго рэхам гісторыі, паколькі не засталося ў Беларусі людзей, якія памяталі б тую Беларусь як рэальны край.

3 ліпеня г.г. Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку, а 2 ліпеня Пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве адзначылі гадавіну незалежнасці ўрачыстымі прыёмамі. Калі меркаваць паводле беластоцкай урачыстасці, зацікаўленасць ёю з боку мясцовых улад было вельмі-вельмі памяркоўным. Найвышэйшымі чынам афіцыйнымі гасцямі былі прадстаўнікі ваяводскай камендатуры паліцыі, падляшскай пагранічнай аховы, прадстаўнікі мітрапаліта і бурмістр Гайнаўкі. Вельмі гэта знамянальнае — прадстаўнікі, але ніводнага ваяводскага верхавода. Традыцыйна на ўрачыстасці такія запрашаюцца і прадстаўнікі беларускай меншасці. Яны ставіліся таксама далёка не ў камплектным камплекце. А калі ўсё гэта скласці разам — урачыстасць атрымалася вельмі нешматлюднай.

Прамовы і віншаванні гасцей беларускім дыпламатам былі вельмі-вельмі акругленымі і дыпламатычнымі. Засяродзіліся яны на „сардэчных і гарачых прывітаннях беларускаму народу з нагоды свята", замест характэрных для такога моманту напорыстых лозунгаў пра „адраджэнне" і „станаўленне дзяржаўнасці". Ну і вось, складваецца няпростая справа з гэтай незалежнасцю, як і з мовай, дарэчы. Нібыта тая мова дзяржаўнай у Беларусі, але якая ўстанова ў Беларусі ёю карыстаецца? (Сакрат Яновіч адмовіўся ад членства ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, бо трэба было запоўніць рускі бланк). Ёсць незалежнасць, бо адзначаецца яе свята, але замежныя дыпламаты (найпершая прыкмета самастойнасці краіны ў замежнай палітыцы) з'язджаюць з Беларусі.

**Аляксандр Максімюк**



# Мегакупалле

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ўночы з 4 на 5 ліпеня сарганізавала ў Белавежы Купалле. У мегаканцэрце выступіла дваццаць пяць калектываў з Беласточчыны і суседніх раёнаў Рэспублікі Беларусь. Агулам, звыш 330 спевакоў і музыкантаў — падлічылі белавежскія пані, якія забяспечвалі мерапрыемства харчамі. А магло б быць і ўтрая менш. Лягчэй было б пракарміць, ды і з карысцю для канцэрта.

Арганізатары павінны глядзець на публіку і з яе паводзін зрабіць сякія-такія высновы на будучыню. З шматтысячнага натоўпу песенны марафон стрывала да канца можа якая трэць. А калектывы ўваходзілі на сцэну, дзве песенькі адпелі і сыходзілі. І так дваццаць пяць разоў, ад дзевятай вечара да першай ночы. Калектывы фальклорныя, эстрадныя, хоры, музыканты дыска-пола — песеннае галавакружэнне. Што толькі заўгодна, апрача купальскіх песень. Калі б некалькі іх не праспявалі калектывы з Беларусі, адзіным купальскім акцэнтам была б „Купалінка", якую спяваў агульны карагод ад перона зачыненай станцыі Белавежа-Палац да новапабудаванага белавежскага амфітэатра.

Паколькі на сцэну вянкі ўносілі з вялікім гонарам, дык на ваду пускалі іх абы-як, без ладу і складу, без песень, абы-хутчэй на вогнішча ў Старую Белавежу. Летняя ночка купальная вельмі ж кароткая.

Бог з пусканнем вянкоў, і так ніхто не ведае, хто і дзеля чаго павінен гэта рабіць. Ды і рачанька Нараўка вузкая, дык плывуць яны ано да першых кустоў. Наўрад, ці абазначае гэта замужжа ў гэтай прыгожай мясціне. Тым больш, што ў некаторых пускальнікаў вянкоў замужам ужо ўнучкі.

Але канцэрт мог бы атрымацца зграбненькі, калі б у ім прыняло ўдзел не дваццаць пяць, а пяць калектываў, затое добрых. Можна было б не гнаць у тэмпе спартыўных гонак, спявалі б яны не дзве, а пяць песень, але, дарэчы, адпаведных да месца і свята. Каб яшчэ нармальнае агучэнне сцэны, была б адна асалода.

Такі канцэрт, аднак, пэўна атрымаўся б горшы ў справаздачы, бо што трыста ўдзельнікаў, то не пяцьдзесят. І публікі было б можа на якую тысячу менш. Затое лягчэй было б працаваць паліцыянтам і можа тады не пусцілі б на сцэну п'яных малалетак.

Хаця паліцыянты і так не павінны наракаць, бо мінулымі гадамі трэба было яшчэ пільнаваць цэлую плойму афіцыйных гасцей: ваяводаў, амбасадараў, міністраў і нават прэм'ераў. Сёлета прыехалі толькі беларускія дыпламаты з Беластока і Варшавы. Гэта, відаць, адно з нешматлікіх мерапрыемстваў, дзе яны, бедныя, пасля ўсіх эксцэсаў прэзідэнта Лукашэнкі могуць яшчэ сябе свабодна адчуваць.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота Сяргея Грыняўіцкага*



## *Еўрапейская пілігрымка*

Мой сённяшні клопат — беларускае замежжа. Менавіта гэтая частка беларускай нацыі на чужыне перахоўвала ідэалы БНР і ўшаноўвала праз усе гады 25 Сакавіка. У Згуртаванні „Бацькаўшчына" з'явілася думка самім выехаць да беларускіх суполак на Захадзе, каб разам адзначыць свята.

[*рэпартаж* ☞ 2]

## *Гедройц*

Чаму Ежы Гедройц так змагаўся за беларускую навуковую ўстанову ў Беластоку? Адказаў ён на гэтае пытанне падчас урачыстасці прысвaення яму ганаровага дактарату. Паводле Гедройца, Беласточчына павінна стаць П'емонтам беларускага культурнага адраджэння. Ведаючы тутэйшую рэальнасць, можна сказаць, што гэта ягоная *idée fixe*. Сёння, калі ён гаворыць пра патрэбу развіцця беларускай культуры, таксама думае пра інтарэс Польшчы. Беларусь, не як геаграфічная, але як нацыянальная краіна патрэбна цэлай Еўропе, так як патрэбна дэмакратычная Расія.

[*штрых да партрэта* ☞ 4]

## *„Басовішча" — мы яшчэ не збыліся*

Перамог энтузіязм ад першага поспеху і так год за годам, бесперапынна, прычакалі мы дзевятага Фестывалю музыкі Маладой Беларусі. Чаго толькі і не было за гэтыя гады на „Басовішчы"? Вырасла новае пакаленне арганізатараў і слухачоў, узніклі і разляталіся гурты. Лявон Тарасэвіч запраектаваў новую сцэну, якая дала размах фестывалю (на жаль, збудаваць яе поўнасцю — з дахам — не ўдаецца дагэтуль). На гэтай сцэне выступалі шматлікія калектывы, у тым ліку і нашы з Беласточчыны „Кардон" і „Брага", якіх, пэўна, не было б, калі б не было „Басовішча".

[*успамін* ☞ 5]

## *Экскурсія ў кашубскую вёску*

Едзем затым у Хмельна, куды запрасіў нас Станіслаў Клімовіч, жыхар тыповай кашубскай мясцовасці. У сем раніцы спаткаліся мы, беларусы Трыгорада, на станцыі Гдыня-Глувна. Дождж сціх. На пероне натоўп турыстаў чакаў бану — двухпавярховы вагон, які ў нас ездзіў з Бельска ў Белавежу-Палац праз Гайнаўку. Для дзяцей — радасць, экзотыка, для нас — настальгічны ўспамін маладосці.

[*інфармацыя* ☞ 8]

# Беларусь — беларусы

## Еўрапейская пілігрымка

*(нататкі аб святкаванні 80-х угодкаў БНР у беларускім замежжы)*

Кожны год у сакавіку падчас святкавання чарговых угодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР міжволі адзначаю пра сябе, што ўрачыстасці адбываюцца па-рознаму. На памяці нашага пакалення вопыт святкавання зусім невялікі. Але і намі ўжо колькі пережыта. Памятаюцца — высокі святочны ўздым першых гадоў новага беларускага адраджэння, шырокі ўдзел усёй свядомай беларускай грамадскасці ў падрыхтоўцы святаў. Потым — апагей, урачыстыя мерапрыемствы да 75-х угодкаў БНР, вечарына ў зале філармоніі, амаль што ўсенароднае свята. Здавалася, што так будзе кожны год. Але, ізноў усё змянілася не да лепшага на нашай Бацькаўшчыне. Сакавіцкае найлепшае наша свята паступова ізноў пачало звужацца. Сённяшнія ўлады ставяцца да 25 Сакавіка, як у ранейшыя часы, хоць яны і атрымалі магчымасць кіраваць самастойнаю краінай менавіта дзякуючы гістарычнаму факту абвяшчэння незалежнасці ў 1918 годзе.

Мой сённяшні клопат — беларускае замежжа. Менавіта гэтая частка беларускай нацыі на чужыне перахоўвала ідэалы БНР і ўшаноўвала праз усе гады 25 Сакавіка. У Згуртаванні „Бацькаўшчына" з'явілася думка самім выехаць да беларускіх суполак на Захадзе, каб разам адзначыць свята.

Ажыццявіць святочнае падарожжа дапамог Дзіцячы фонд „Сакавік", які ўзначальвае ўнучка Якуба Коласа — Марыя Міцкевіч. Фонд аказвае дапамогу ў аздараўленні беларускіх дзяцей у Англіі і Ірландыі. „Сакавік" атрымаў у падарунак ад ірландцаў мікрааўтобус тыпу „Ambulance". На гэтым транспарце і меркавалася падарожжа. Прадстаўнікам „Бацькаўшчыны" было выдзелена некалькі месцаў. Акрамя асноўнай мэты, звязанай з пытаннямі гуманітарнай дапамогі, мы спланавалі свой маршрут так, каб пабываць амаль ва ўсіх беларускіх асяродках у Еўропе і прыняць удзел у святкаванні юбілею БНР.

**Прага**

Першымі адбыліся святочныя імпрэзы ў Празе, дзе паступова адраджаецца беларускае жыццё. Арганізатарамі іх былі беларуская суполка „Скарына" і Беларуская рэдакцыя Радыё „Свабода". Мне давялося выехаць на некалькі дзён раней у Прагу, каб прыняць удзел у святкаванні, бо ў Чэхію мы павінны трапіць толькі на завяршэнне нашага падарожжа.

23 сакавіка свята адкрылася ўрачыстым малебнам у праваслаўнай капліцы на Альшанскіх могілках. Службу прыгожа вёў айцец Кастусь Бандарук, святар, цяпер супрацоўнік Радыё „Свабода". Пасля ўсе скіраваліся ўшанаваць памяць двух прэзідэнтаў БНР, што пахаваны на Альшанах — Пётры Крэчэўскага і Васіля Захаркі, а таксама беларускага спевака Міхася Забэйды. У 14 гадзін пачалася святочная акадэмія ў Народным доме на Вінаградах. Зала была поўная. Прыехалі беларусы з Нямеччыны, Бельгіі, Беластока, Гданьска, уся пражская беларуская грамада, новыя эмігранты з Беларусі. Грамадскасць з Беларусі давялося прадстаўляць мне адной. Змястоўныя даклады зрабілі кіраўнік Беларускай рэдакцыі радыё „Свабода" Вячка Станкевіч і супрацоўнік Сяргей Шупа. Імпрэзу памайстэрску вяла журналістка Радыё Алена Ціхановіч. З прывітальнымі словамі выступілі Янка Жучка, Ганна Сурмач, Лена Глагоўская, Яўген Вапа, Ніна Аксёнчык. Ад Канцылярыі Прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гавеля прывітальны ліст зачытаў кіраўнік створанага ў Празе Фонда „Чалавек у бядзе". Выступілі прадстаўнікі ўкраінскай і латышскай суполак у Чэхіі. Адбыўся і добры канцэрт: на беларускіх цымбалах адмыслова іграла Ганна Лікіна, свае ўзнёслыя песні пра Беларусь спяваў Сяржук Сокалаў-Воюш, а двое яго белагаловенькіх сынкоў прачыталі верш. Свята завяршылася супольнаю вячэрай у адным з рэстаранаў каля Карлава моста. На жаль, мне не давялося пабыць там разам з сябрамі, бо мусіла вечарам ад'ехаць у Варшаву. Свята пакінула добрыя ўспаміны і надало маральных сілаў на далейшы шлях. Добра, што Прага ізноў становіцца адным з замежных беларускіх цэнтраў, як гэта было ў міжваенны час.

*(працяг будзе)*

**Ганна Сурмач**

## Нямецкі друк аб сітуацыі ў Беларусі

Кроўны вораг Лукашэнкі, былы кіраўнік Беларусі Станіслаў Шушкевіч на святкаванні амерыканскага Дня незалежнасці ў садзе пасольства ЗША на ўвесь голас распаўсюджваў свае злачынныя погляды. Тры гады Лукашэнка цярпеў падобныя гадасці, якія тварыліся каля самых варот яго асабістай рэзідэнцыі. На чацвёрты год яго цярпенне лопнула. Ён зачыніў амерыканскаму і яшчэ двум дзесяткам паслоў пад'язныя дарогі да іх рэзідэнцый у загарадным комплексе Драздзы. Прычына — неабходнасць тэрміновых рамонтных работ. І гэта тады, калі Дзяржэпартамент ЗША толькі што затраціў на абнаўленне сваёй загараднай рэзідэнцыі 800 тысяч долараў, а бонскае МЗС на рамонт сваёй — 400 тысяч марак.

Ужо чатыры гады Лукашэнка цвёрда трымае ў руках усю краіну. Палітычная апазіцыя і прафсаюзы — нейтралізаваны. Важнейшыя сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца пад кантролем. Жудасны апарат органаў дзяржаўнай бяспекі, у якім працуе 500 тысяч чалавек, пры 10-мільённым насельніцтве краіны, непасрэдна падначалены прэзідэнту. Адна толькі асабістая ахова Лукашэнкі налічвае тысячу супрацоўнікаў. За мінулыя гады ва ўладальніку краіны вырабілася сапраўдная манія праследавання. Прававахоўныя органы Беларусі пастаянна раскрываюць загаворы, выкрываюць акты сабатажу і здрады. За ўсім гэтым традыцыйна ўжо стаяць цёмныя сілы — ЦРУ, Каталіцкі касцёл, прэса, а цяпер яшчэ і дыпламаты. Радавыя грамадзяне Беларусі, для якіх адзінай крыніцай інфармацыі з'яўляецца дзяржаўная прапаганда, сапраўды вераць у тое, што значная частка сусветнай супольнасці ўдзельнічае ў змове супраць іх краіны. А цяпер яшчэ і НАТО збіраецца прыблізіць свае граніцы да заходняй мяжы рэспублікі.

Цвяроза думаючыя грамадзяне краіны ў адчаі. „Пасля чарнобыльскай катастрофы я зрабіў асноўную памылку свайго жыцця, — смуткуе таксіст Міхаіл Арцюшын. — Тады я мог атрымаць экалагічнае прыстанішча адразу ў некалькіх краінах Еўропы. Але я не зрабіў гэтага. Цяпер ужо нас не прымае ніводная краіна".

*Der Spiegel*

* * *

Канфлікт вакол замежных паслоў у Мінску — гэта хаця і недарэчны, але ўсё ж дробны эпізод на фоне драконаўскіх мер, якія прымяняюцца да непакорных суграмадзян. Парушэнні правоў чалавека сталі тут звычайнай з'явай. Апазіцыю прэзідэнт паставіў практычна па-за законам. Прабыванне замежнікаў у Беларусі стала вельмі непажаданым. А нядаўна з-за чыноўніцкага самавольства прымушаны быў закрыць сваё мінскае бюро Фонд Сораса, які падтрымоўвае гуманітарныя праекты ва Усходняй Еўропе. Новы беларускі рэжым прызналі толькі ізгоі сусветнага грамадства — Іран, Ірак, Лівія, Сірыя ды яшчэ Расія, звязаная з Мінскам фармальным саюзам.

А нядаўна прайшло ахаладжэнне адносін паміж Масквой і Мінскам. Віноўнік гэтаму — сам Лукашэнка. Вялікаруская эліта ў прынцыпе не мае нічога супроць саюза з Беларуссю, але толькі на варунках Масквы, а не па ўказцы мінскага выскачкі, хаця спачатку сентыментальныя парывы прэзідэнта-славянафіла былі ім да спадобы.

*Die Welt Woche*

## Павел Севярынец на свабодзе!

Лідэр Маладога фронту Павел Севярынец быў выпушчаны 5 чэрвеня з-за кратаў па падпісцы аб нявыездзе. Быў ён схоплены лукашэнкаўскімі спецслужбамі 2 красавіка 1998 г., падчас акцыі моладзі, якая пратэставала супраць „яднання Беларусі з Расіяй".

Паўлу Севярынцу прад'явілі абвінавачанне ў хуліганстве падчас „акцыі", але гэтае абвінавачванне следства не даказала. Пазней следства прад'явіла яму новае абвінавачанне — „разжигание национальной вражды между народами". Доказам гэтага, на думку следчых, з'яўляецца выданне Маладога фронту „Маладзёвы Веснік", рэдактарам якога з'яўляецца П. Севярынец. У тыднёвіку малады людзі вельмі негатыўна пісалі аб інтэграцыі, прэзідэнце, „маскалях" (значыць, рускіх).

Але пад ціскам моладзі, якая баранiла свайго лідэра (арганізоўвала масавыя акцыі і пратэсты, кожны дзень збіралі подпісы ў яго падтрымку), праваабарончых арганізацый, улады былі вымушаны адпусціць П. Севярынца на волю. Такім чынам, беларуская моладзь паказала, што яна не баіцца лукашэнкаўскага рэжыму, і што яна заўсёды будзе змагацца за незалежную Беларусь, як бы яе не палохалі выключэннямі з універсітэтаў, збіваннем на маніфестацыях, арыштамі і суткамі за „палітыку".

**Ян Абадоўскі**

## Акцыі пратэсту

Акцыю пратэсту супраць зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва правёў 25 чэрвеня Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў. Акцыя пачалася ў $17^{00}$ на плошчы Якуба Коласа, дзе па розных падліках сабралася каля 500 чалавек. Людзі трымалі лозунгі „Не — зніжэнню жыццёвага ўзроўню і росту цэнаў", „Хочам жыць — а не выжываць", а таксама сцягі Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў, Беларускага народнага фронту і нацыянальныя бел-чырвона-белыя. З плошчы Якуба Коласа калона прайшла шэсцем па цэнтральных вуліцах Мінска да плошчы Парыжскай камуны, дзе адбыўся мітынг. Арганізатары паведамілі, што гэта пачатак агульнарэспубліканскай акцыі пратэсту супраць катастрафічнага зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

У падтрымку мінскай акцыі гандляры рынкаў Наваполацка і Полацка 25 чэрвеня спынілі працу з 10 да 11 гадзін.

* * *

Пікет у падтрымку Беларускага гуманітарнага ліцэя правялі самі навуэнцы і іх бацькі. У пікеце, які адбыўся 16 чэрвеня, прыняло ўдзел каля 100 чалавек.

Гісторыя з месцазнаходжаннем ліцэя доўжыцца з мінулага года, калі будынак, які размешчаны ў цэнтры Мінска, перадаваўся на баланс Упраўлення справамі прэзідэнта. Тады шляхам шматлікіх акцый пратэсту вучням і іх бацькам удалося адстаяць ліцэй на адзін навучальны год.

На гэты раз грамадскасць пратэстуе супраць поўнага знікнення беларускамоўнай навучальнай установы — згодна праекту пастановы Савета Міністраў гуманітарны ліцэй плануюць аб'яднаць з ліцэем пры Беларускім дзяржаўным універсітэце.

За час дзённага пікетавання ліцэістамі сабрана больш 6 000 подпісаў у падтрымку сваіх патрабаванняў.

**(яа)**

<u>Выйшаў у свет цытатнік Аляксандра Лукашэнкі</u>

## Трэцяя кніга прэзідэнта

У адрозненне ад дзвюх папярэдніх кніжак Лукашэнкі, якія выйшлі па-нямецку і англійску, гэты шэдэўр выдадзены на рускай мове і мае даволі арыгінальную назву: „Александр Лукашенко — Прэзидэнт Республики Беларусь". Кніга адкрываецца ўступным словам галоўнага героя і біяграфічным нарысам пра Рыгоравіча, а далей (больш чым на 100 старонках) ідуць цытаты, цытаты, цытаты... У дадатак да іх — адпаведны набор фотаздымкаў: Лукашэнка з французскім прэзідэнтам, з сямействам Клінтанаў, на саміце АБСЕ, з беларускімі рабочымі, з ветэранамі, з дзецьмі і г.д. Але трапілі ў кнігу і некалькі „крамольных" здымкаў, дзе побач з прэзідэнтам можна пабачыць спікера Сямёна Шарэцкага, тагачаснага прэм'ера Міхаіла Чыгіра, цяперашняга сядзельца Жодзінскай турмы Васіля Лявонава і іншых былых паплечнікаў. Складальнікам кнігі, як пазначана ў выхадных даных, з'яўляецца прэзідэнцкі летапісец Эдуард Скобелеў, а надрукаваны зборнік на Мінскай фабрыцы каляровага друку. Але выпушчана пакуль не 100 тысячаў экзэмпляраў, як запланавана, а толькі адна тысяча, і таму цытатнік можна лічыць пакуль што бібліяграфічнай рэдкасцю.

**Данута Ляўковіч**

*„Навіны", № 70 ад 2 ліпеня 1998 г.*

# Хачу хату будаваць...



*Семяноўка будуецца.*

...напрыклад, пад Семяноўкай, над вадасховішчам, там, у бок Белавежскай пушчы. Хай бы і не хату, а дачны домік — так рашае шмат гараджан і тых, хто адтуль, з Нараўчанскае гміны родам. Бо там, у той ваколіцы, адкуль шмат народу ўцякло, хат нічыіх няма. Калі нават гаспадары адышлі, хатай цяпер цікавяца родныя. Мода такая, і патрэба. Так кажа спадарыня Люба Новік, сакратар Нараўчанскае гміны. Зямля ж ёсць (у большасці слабенькая), колькі яе ляжыць аблагом, хваленае паветра — вось якое, прадаваць бы яго можна, як тую ваду крынічную, у бытэльках — смяюцца людзі. Прышэльцам здаецца, што рай тут, жыць не уміпаць!

Шмат аб'яў у беластоцкім і варшаўскім друку штодзённа вабіць пакупніка, шукаючага спакою ў белавежскім староннi. Асабліва тых, у каго ёсць свая машына а нават і дэльтаплан, і не палохаюцца людзі чакання аб'язной крамы з прадуктамі. Аб'явы такія: „Прадам участак над Семяноўскім вадасховішчам". Калі б палічыць тыя ўсе аб'явы і калі б рэалізаваныя яны былі, то над „Семяноўскім морам" народу было б мора!

— Што мае зрабіць чалавек, зацікаўлены пакупкай участка, каб пасля не мець праблем? — звяртаюся да сп. Любы Новік. — Бо ўжо некаторыя апарыліся, купляючы ўсляпую, увалілі грошы, а будаваць нічога там не могуць.

— Павінен будучы ўласнік такога ўчастка спачатку скантактавацца з Управай гміны, даведацца, якое ёсць прызначэнне таго ўчастка: ці прызначаны ён у плане пад забудову, ці не. Калі хоча паставіць жылы дом ці дачны домік, мусіць мець вырашэнне на пабудову (decyzja o prawie zabudowy). Гэта мусіць быць пазначана ў плане *szczegółowego zagospodarowania gruntów.* Калі такое прызначэнне не акрэслена, гэты ўчастак — „грунт рольны". Таму трэба абавязкова раней даведацца, якое прызначэнне мае канкрэтны ўчастак з нумарам такім ды такім.

— А калі раптам чалавек купіў той „грунт рольны" і даведаўся, што не можа нічога там паставіць? Ці мае нейкую магчымасць справу палагодзіць?

— Так, але ёсць шмат варункаў. Напрыклад, у якой адлегласці ёсць тая дзялянка ад аквена і ад лесу. Апрацоўвaецца студыум прасторавага загаспадарання гміны, і будзе абавязваць захаванне адлегласці ўчастка 500 метраў ад лініі берага.

— Ваколіцы Семяноўскага вадасховішча гэта ў большасці слабыя землі V і VI класаў. Там усюды блізка да лесу, і падступае ён усё бліжэй.

— Там, дзе ў гэадэзічным рэестры пазначана, што грунт аблесены, там будавацца нельга. Такія вёскі, як Баб'я-Гара, Семенякоўшчына, Баравыя, Пасекі акружаны лесам, але трапляюцца „плямы", дзе хаты ставіць можна. Вось адзін пляц куплены на пабудову гатэля — паміж Бандарамі і Новай Лукой.

— Людзі маглі б жыць з агратурызму. На гэта можна браць крэдыты, не чакаць тую Еўропу з заложанымі рукамі, а запрашаць еўрапейцаў на тое славутае свежае паветра і чыстую здаровую ежу. Так, як гэта робяць былыя небагатыя аўстрыйскія, швейцарскія ці іспанскія вёскі. Назвы гатэлікаў, рэстаранчыкаў і самаробных прадуктаў (як, напрыклад, сыры, вяндліны ці віно) сямейных фірмаў былых земляробаў на камяністых палетках прыцягваюць усё новых аматараў адпачыць танна і смачна на ўлонні прыроды. Ці праяўляюць ужо жыхары Нараўчанскай гміны зацікаўленне такім відам гаспадарчай дзейнасці?

— Дзве асобы ў нас заняліся гэтым, ёсць дзве кватэры. Шмат турыстаў прыязджае летам і ў Нараўку, у Асяродак адпачынку і спорту. У Ляўкове ёсць гатэль пры самаўрадавай святліцы, можна адпачыць і ў асяродку баптыстаў. Шмат турыстаў прыязджае з палаткамі. Палатачныя палі ёсць у Свінароях, на Грушках, разбіваюцца наўкол Семяноўскага вадасховішча, асабліва ад Новай Лукі пад Стары Двор і ў Нараўцы пры Асяродку адпачынку і спорту.

— Можа, хто з тых, хто думае вярнуцца, спрабуе выкарыстаць магчымасці добра папрацаваць, зрабіць карыснае для сябе і свае зямлі?

**Міра Лукша**

*Фота аўтара*

# Як рэфармаваць?

Раней у нашай дзяржаве было 17 ваяводстваў. Пазней падзялілі краіну на 49 ваяводстваў ды ліквідавалі паветы тлумачачы, што зручней будзе ўпраўляць краінай, а і ўлада апынецца бліжэй звычайнага чалавека. Прайшло амаль чвэрць стагоддзя і зноў усе загаварылі пра чарговую адміністрацыйную рэформу. Цяпер адны хочуць падзяліць краіну на 12, іншыя — на 15, 17, а нават 25 ваяводстваў. На маю думку, сённяшнія рэфарматары, якія таксама тлумачаць, што пасля рэформы будзе лепей, дбаюць толькі пра сваю славу і не ўлічваюць інтарэсаў лакальных грамадскасцей, напрыклад патрабаванняў жыхароў Кашаліна ці Быдгашчы, якія змену статусу сваіх гарадоў з ваяводскага на павятовы ўспрымаюць вельмі балюча.

Добра сталася, што прэзідэнт РП Аляксандр Квасьнеўскі паставіў вета на ўхваленым законе аб падзеле краіны на 15 ваяводстваў. Цяпер паслы і сенатары ўсіх клубаў павінны паміж сабою так дагаварыцца, каб рэформа не раз'ядноўвала грамадства і не пераўтварылася ў зручную нагоду для палітычных гульняў і абвінавачвання сацыял-дэмакратаў у тармажэнні рэформы. Палітыкі павінны памятаць, што спосаб правядзення рэформы будзе адпаведна ацэнены выбаршчыкамі, што ў сваю чаргу выявіцца на чарговых самаўрадавых і парламенцкіх выбарах.

**Мікалай Лук'янюк**

# Асечка белавежскіх радных

На сваім апошнім пасяджэнні Рада гміны Белавежы паспела яшчэ прыняць пастанову аб прысваенні назваў тром новым вуліцам у мястэчку. У сапраўднасці гэта, пакуль што, палявыя дарогі, якія нармальнымі вуліцамі магчыма стануцца ў будучыні, хутчэй далейшай чым бліжэйшай. Пры іх няма яшчэ звычайнай забудовы.

Дарога побач будынка паліцыі ва ўсходнім накірунку (ад вуліцы Спартовай) зараз называецца Зубровай (Żubrowa). У сваю чаргу дарога, што адыходзіць ад вуліцы Броўскай і ідзе раўнабежна да вул. Мэлешкоўскай, найменавана Бярозавай (Brzozowa). Паколькі гэтыя назвы не выклікаюць ніякага супраціву, то ўжо назва трэцяй дарогі, паміж могільнікам і асяродкам здароўя — Каменнае багна (Kamienne Bagno) можа ўсхваляваць (і хвалюе!) кожнага. Абмінаючы ўжо факт, што назва дрэнна ў гэтым месцы асацыюецца, то яна тут яшчэ ні з пушчы, ні з поля. Каб радныя гэтак назвалі Рыгоравую дарогу, якая таксама з'яўляецца папярэчнай вуліцай да вул. Трапінкі, усё было б у парадку. Менавіта Рыгорава дарога выходзіць на ўрочышча, якое называецца „Каманны багон". Дык, гэта трэба ведаць! Няўжо ўсю раду складаюць людзі, якія не ведалі размяшчэння паасобных урочышчаў на Белавежскай паляне? Тым больш, што ў мясцовым часопісе „Białowieżanin" не так даўно публікавалася (нават двойчы!) карта з гэтымі ж урочышчамі?

Мне думаецца, што новая рада павінна асечку сваёй папярэдніцы неадкладна выправіць. Ад сябе прапаную замест Каменнай багны назваць дарогу Могільнікавай (Cmentarna).

**Пётр Байко**

# У Чаромсе свята

Нядзеля 24 чэрвеня г.г. апавяшчалася ў Чаромсе як не абы-якое свята. Сапраўды, у гэты дзень супалі дзве нагоды — прыхадское свята ў царкве Іконы Божае Маці „Достойно есть" або „Замілаванне" і 50-цігоддзе дызельнай цягі ў Прадпрыемстве чыгуначнага рухомага саставу.

Паколькі багаслужэнне ў царкве адбываецца раніцай, дык прадпрыемства чыгуначнікаў назначыла свой фэст на адвячорак. Аднак нечаканы сюрпрыз чарамшукам зрабіла летняе надвор'е, якое паскупіла гэтым разам цеплыні і сонечных праменняў. Да полудня неба зацягнулася хмарамі, а пасля пачаў імжыць дождж. Арганізатары вымушаны былі перанесці мерапрыемства з пляцоўкі пад адкрытым небам у клуб. Перад будынкам купцы рыхтавалі „буфеты" з півам пад парасонамі. Нехта паставіў кіёск з цукровай ватай. А людзі не падыходзілі...

Паўгадзіны да пачатку мерапрыемства зала да паловы пуставала. Большую частку гледачоў складалі дзеці і школьная моладзь. Толькі ў некаторых крэслах можна было ўбачыць запрошаных арганізатарамі машыністаў-ветэранаў.

Роўна ў $17^{00}$ Лявон Купрыцюк, прадстаўнік прафсаюзнай арганізацыі машыністаў прывітаў прысутных і гасцей: войта Чаромхаўскай гміны Міхала Врублеўскага і начальніка Прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу ў Беластоку Анатоля Аніщчука, публіку, самадзейнікаў. Вядучы коратка пазнаёміў прысутных з гісторыяй дызельнай цягі і запрасіў на мастацкую частку, якая пачалася гукамі марша мясцовага духавога аркестра чыгуначнікаў і вялася ўперамешку з расказам пра славутыя „тарпэды". Расказ перарывалі мастацкія выступленні „Падляшскіх зязюль" з Комплекса сельскагаспадарчых школ у Бельску-Падляшскім (у іх выкананні ставілася разнаколерная „Падляшская сюіта", а таксама старадаўнія песні Бельшчыны), боцькаўскіх „Клекацякаў", сатырычнага кабарэ Збігнева Пожыньскага, выступленні каратэкаў. Мастацкую частку завяршыла „Чарамшына". Прыбывала публікі, у зале заняты былі ўсе месцы, данеслі дастаўныя крэслы.

— Пачалося ўсё ў 1947 годзе. Тадышнія ўлады вырашылі, што ў Гайнаўцы трэба стварыць неабходныя ўмовы для экалагічнага збярэжання Белавежскай пушчы і ўсяго асяроддзя. Для гэтага была неабходная дызельная цяга. У 1948 годзе, — вёў аповед Л. Купрыцюк, — на абучэнне былі накіраваны 25 гайнаўскія машыністы. 6 чэрвеня 1948 г. рушыў першы дызельны цягнік, так званая „тарпэда". Яго вялі варшаўскія машыністы. У Чаромсе першымі на „тарпэду" селі Мечыслаў Савіцкі і Барыс Стэфанюк...

— У 1964 г. Чаромха атрымала лакаматыў СМ-41, а ў 1969 г. паступаюць першыя СМ-42 айчыннай вытворчасці. У 1970 г. дызельны цэх пераводзіцца з Гайнаўкі ў Чаромху. У 1971 г. у Чаромхаўскае паравознае дэпо паступаюць магутныя савецкія „гагарыны", якія вадзілі таварныя цягнікі і пасажырскія на транзітнай лініі Чаромха—Свіслач. Першы дызель-поезд СТ-44 нумар 007 прывёў на прадпрыемства машыніст Мікалай Раманчук з памочнікам, ужо пакойным Інакентам Саўчуком. Пасля былі ўведзены лакаматывы для манёўраў СМ-48, а для пасажырскага руху СМ-42. Аднак у 1982 г. былі яны выведзены з ужытку па тэхнічных прычынах. Развітаўся наш краявід з тымі „тарпэдамі"...

**Уладзімір Сідарук**

# Дарога да ўзаемнасці

Пад такім лозунгам 2 і 3 ліпеня г.г. у Белавежскім доме культуры праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя, арганізаваная Кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і Польскім беларусазнаўчым таварыствам.

— Першы раз канферэнцыю арганізавалі мы пяць гадоў таму ў Беластоку і ад гэтага часу штогод адбываюцца чарговыя сустрэчы. Выцягваем з гісторыі польскага і беларускага народаў тыя элементы, якія спалучаюць, але гэта не значыць, што няма канфліктных спраў. Асобнай галіной з'яўляюцца даклады, прысвечаныя эміграцыйнаму жыццю, — сказаў галоўны арганізатар канферэнцыі, кіраўнік Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта прафесар Аляксандр Баршчэўскі. — У гэтым годзе запрасілі мы дзесяць асоб з Беларусі, у тым ліку Адама Мальдзіса і Уладзіміра Конана са Скарынаўскага цэнтра ў Менску, але змаглі даехаць толькі дзве асобы, прафесар Сяргей Габрусевіч з Гародні і Наталля Марцінкевіч са згаданага Скарынаўскага цэнтра. Іншыя не змаглі даехаць, праўдападобна з-за пашпартных складанасцей.

У час канферэнцыі выступіла каля дваццаці асоб, якія закранілі праблемы беларускай і польскай літаратур, мовы, адклікаліся да гісторыі і грамадскіх з'яў. У сувязі з Міцкевічаўскім годам найбольш дакладаў тычылася беларускіх элементаў у жыцці і творчасці гэтага выдатнага паэта. Глыбокай фактэлагіяй характарызаваўся даклад прафесара Васіля Белаказовіча з Ольштына „Беларуская крыніцы творчасці Адама Міцкевіча". Прафесар разважаў наконт выказванняў, якія ўключаюць Міцкевіча ў лік беларускіх паэтаў і тых, якія шукаюць толькі беларускіх элементаў у яго творчасці. Расказаў пра сям'ю з боку маці паэта, звяртаў увагу на яго беларускае паходжанне. Прафесар Аляксандр Баршчэўскі быў адным з тых, якія гаварылі пра беларускую эміграцыю. Расказаў ён пра беларускае пісьменства ў дзейнасці парыжскага эміграцыйнага асяроддзя. Падкрэсліў, што больш чым трыццаць тысяч беларусаў з Заходняй Беларусі (Рэчы Паспалітай) выехала ў Францыю, дзе выдавалі ў Парыжы два часопісы „Бюлетэнь" і „Рэха", прасякнутыя камуністычнымі ідэямі. Наталля Марцінкевіч з Мінска гаварыла пра сацыялагічныя апытанні, праведзеныя ў 1997 годзе ў 34 падставовых і сярэдніх школах за межамі Рэспублікі Беларусь, дзе вядуцца заняткі па беларускай мове (2 у Літве, 3 у Латвіі, 3 у Расіі і 26 у Польшчы), а вучыцца там 4715 асоб. Толькі 13% апытаных лічылі неабходным пашырэнне навучання беларускай мовы. Сярод ліцэістаў Бельскага і Гайнаўскага белліцэяў 27% хацелі паступіць на вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі.

Прафесар Сяргей Габрусевіч з Гродзенскага універсітэта выступіў з дакладам „Культура як фактар самазахавання і развіцця этнасаў і этнічных меншасцей", але шырока закрануў актуальнае становішча беларускай культуры.

— Калі ў 1997 годзе ў Беларусі выдадзена было 5,5 тысяч кніг, то 41 на еўрапейскіх мовах, толькі 600 на беларускай і ўсе апошнія на расейскай, — сказаў прафесар Габрусевіч. — У бягучым годзе ў беларускамоўныя класы Менска паступіла толькі 7% ад агульнай колькасці першакласнікаў, а ў Гародні толькі 3,7%. Усё больш і больш людзей адыходзіць ад працы на ніве беларускай культуры.

Сяргей Габрусевіч звяртаў увагу, што лексічных праблем звязаных з карыстаннем беларускай мовай няма, бо словы выводзяцца са старажытнагрэчаскай, лацінскай, англійскай і нямецкай моў. Адмоўна ацаніў тых, якія лічаць, што апрача нацыянальнай існуе яшчэ еўрапейская ці сусветная культура.

На заканчэнне прысутныя вырашылі, што наступныя канферэнцыі будуць адбывацца не ў час уступных экзаменаў у вышэйшыя ўстановы, але ў чэрвені.

**Аляксей Мароз**

# Нашы карані

### CXXII. Набліжэнне

Вяртанне уніятаў у праваслаўе нават пасля трэцяга падзелу Польскай дзяржавы не праходзіла вельмі гладка. Уніяцкая іерархія рабіла ўсё магчымае і немагчымае, каб любым коштам утрымаць пад сваёй уладай усіх веравызнаўцаў уніі. Значная яе частка намагалася цалкам латынізаваць уніяцкі Касцёл і злучыць яго з рымска-каталіцкім Касцёлам. Найболей шчыравалі ў гэтым кірунку уніяцкія манахі базыльяне. Базыльянскія кляштары толькі знешне захоўвалі выгляд уніяцкіх, а фактычна яны былі рымска-каталіцкія і польскамоўныя.

У той жа час узмацнялася сярод уніятаў імкненне да яднання са спрадвечнай сваёй маці, праваслаўнай Царквою. Гэты рух ахопліваў усё шырэйшыя колы не толькі звычайных парафіянаў, але таксама парафіяльнае уніяцкае духавенства. Нямала уніяцкіх парафіяльных святароў, нягледзячы на пагрозу быць пазбаўленымі свайго сану, ахвярна тлумачыла сваім прыхаджанам праўдзівую гісторыю і нават заахвочвала пераходзіць у праваслаўе. Вялікую ролю ў гэтай справе адыграў рух сярод маладога уніяцкага духавенства, гімназісцкай і студэнцкай моладзі, настаўнікаў парафіяльных школ, а таксама прафесараў Віленскага універсітэта. Яны не толькі ўсведамляюць сваю беларускасць ці ўкраінскасць, але таксама намагаюцца ачысціць уніяцкі Касцёл з рымска-каталіцкіх і польскіх уплываў і спрабуюць надаць уніяцкаму Касцёлу значэнне нацыянальнага веравызнання. Ініцыятарамі, „драж-джамі" гэтага руху былі ў асноўным здольныя і адважныя, але бедныя сыны вясковых і маламестачковых, пераважна ўбогенькіх, уніяцкіх ксяндзоў-парахаў. Таму гімназісты і студэнты шляхецкага паходжання ды начальства пагардліва абзывалі іх „паповічамі". Значная група гэтай надзвычай працавітай і нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі паходзіла з Беласточчыны. Належалі да яе прафесары Віленскага універсітэта Міхал Баброўскі, родам з Волькі-Выганоўскай, што каля Орлі. Ён знайшоў у бібліятэцы Супрасльскага манастыра славуты Супрасльскі рукапіс з XII стагоддзя, Ігнат Даніловіч з Грыневічаў, што каля Бельска, знакаміты гісторык, які адкрыў свету Беларусь, Платон Сасноўскі з Кляшчэляў і шэраг іншых выдатных дзеячаў навукі і асветніцкай працы першых дзесяцігоддзяў XIX стагоддзя. Гэтыя вучоныя, духавенства і моладзь прабіваліся праз гушчавіну афіцыйных зафальшаванняў мінулага уніі і лацінскіх нарасцяў на уніяцкай абраднасці і самі пераконваліся, што роднай верай іхніх продкаў было праваслаўе.

Наперакор вышэйшай іерархіі, намаганням варожа настаўленых да праваслаўя базыльянаў і іхніх паплечнікаў, сярод не толькі парафіяльнага, але зрэдку і вышэйшага уніяцкага духавенства паяўлялася ўсё больш і больш людзей, якія самі ачышчалі уніяцкі абрад з чужародных элементаў і такім чынам набліжалі яго да праваслаўнай Царквы. Такая дзейнасць патрабавала немалой адвагі і ахвярнасці, бо такія памкненні не заўсёды знаходзілі падтрымку нават у тадышніх праваслаўных расейскіх цароў, асабліва ў Паўла I і Аляксандра I, якія фліртавалі з уніяцкай і каталіцкай іерархіяй. Гэта па іхняй ініцыятыве зачыняліся нават тыя праваслаўныя манастыры на Беласточчыне, якія здолелі перажываць 200-гадовы ціск з боку уніятаў. Такі трагічны лёс спаткаў, між іншым, праваслаўныя манастыры ў Драгічыне, Бельску і Заблудаве, ліквідаваныя мінскай праваслаўнай кансісторыяй у 1823 годзе з-за „малой колькасці манахаў і ўбоства манастыроў" — як пісалася ў дакументах. І ўсё ж працэс набліжэння уніятаў да праваслаўя мацнеў і пашыраўся.

**Мікола Гайдук**

# Гедройц

**29 чэрвеня ў Парыжы Ежы Гедройц прыняў ганаровы дактарат Універсітэта ў Беластоку. Не першы гэта ганаровы дактарат, прысвоены рэдактару парыжскай „Культуры" ўладамі польскіх універсітэтаў, але беластоцкая навуковая ўстанова з'яўляецца першай, у стварэнні якой Гедройц прымаў удзел.**

Шмат гадоў беластоцкае навуковае асяроддзе намагалася прыдбаць самастойнасць для Філіяла Варшаўскага універсітэта, аднак заўсёды знаходзіліся нейкія фармальныя перашкоды, якія не дазвалялі ажыццявіць гэтую ідэю. Вырашальным аказаўся голас Гедройца, які ад польскіх улад дамагаўся, каб у структурах Беластоцкага універсітэта стварыць беларускі інстытут. Сэнсу існавання такога інстытута не бачыла мясцовае універсітэцкае асяроддзе, якому куды бліжэй да палітычных поглядаў беластоцкага мітрапаліта Станіслава Шымэцкага, чым рэдактара „Культуры". Аднак, дзякуючы дыпламатычным талентам рэктара Адама Ямруза, удалося стварыць Кафедру беларускай культуры, якая стала свайго роду кампрамісным вырашэннем. Для Гедройца была гэта нейкая беларуская ўстанова ў рамках самастойнага універсітэта, а з другога боку — не так ужо і раздражняла яна мясцовых патрыётаў як магло гэта быць у выпадку інстытута.

Чаму Ежы Гедройц так змагаўся за беларускую навуковую ўстанову ў Беластоку? Адказаў ён на гэтае пытанне падчас урачыстасці прысвяення яму ганаровага дактарату. Паводле Гедройца, Беласточчына павінна стаць П'емонтам беларускага культурнага адраджэння. Ведаючы тутэйшую рэальнасць, можна сказаць, што гэта *idée fixe*. З аднаго боку нацыяналістычнае польскае акружэнне, якое пастаянна выконвае місію „obrońców kresów i polskości", з другога дэмаралізаваны і перапалоханы натоўп беларускага паходжання, выхаваны сваімі і чужымі ўстановамі ў пагардзе да беларускасці. У Варшаве некаторыя як бы ўжо зразумелі, што для дабра Польшчы пажаданай таксама беларуская культурная прастора, але ў Беластоку мясцовыя касцельныя і палітычныя эліты думаюць як санацыйныя палкоўнікі.

Гедройц, аднак, ужо не першы раз рабіў рэвалюцыю ў польскай палітычнай думцы. Нарадзіўся ён у Менску ў 1906 г. Вучыўся ў Менску, Маскве і Варшаве. Да 1939 года, працуючы ў найвышэйшых урадавых установах Польшчы, пазнаў схемы мыслення польскіх элітаў. Падчас вайны змагаўся супраць немцаў у паўночнай Афрыцы. У 1946 г. разам з Юзэфам Чапскім заснавалі ў Рыме Польскі літаратурны інстытут, а год пасля ў Парыжы — рэдакцыю штомесячніка „Культура", які адыграў асноўную ролю ў фарміраванні польскай палітычнай думкі.

Пасля вайны межы Польшчы рашуча змяніліся. Польскі эміграцыйны ўрад і амаль усе незалежныя цэнтры польскага жыцця на Захадзе зыходзілі з такога пункту гледжання, што інтарэс і будучыня Польшчы патрабуе вяртання зямель, патрачаных ёю ў 1944 годзе на карысць савецкіх рэспублік Беларусі, Літвы і Украіны. У самым разгары халоднай вайны Гедройц і Чапскі выступілі з тэзісам, што чаканне вяртання патрачаных зямель, на якіх большасць насельніцтва складаюць беларусы, украінцы і літоўцы, ніколі не дазволіць палякам выйсці на незалежнасць. Інтарэс Польшчы не ў змаганні, а ў шчырым сяброўстве з гэтымі народамі, якім трэба спрыяць у стварэнні сваіх дзяржаў у існуючых межах. Гэтае было Гедройцам сказана ў 1954 годзе і шмат хто на эміграцыі палічыў яго здраднікам польскай справы. Моцна ўпаў тады тыраж „Культуры", якая трымалася за грошы падпісчыкаў. Гедройц ператрываў пагрудовую атмасферу астракізму вакол сваёй асобы і неўзабаве яго пункт гледжання пастаянна знаходзіў новых прыхільнікаў. Сёння ніхто з важнейшых польскіх палітыкаў не ігнаруе тае філасофіі геапалітыкі, якую звыш сарака гадоў таму запрапанаваў палякам Ежы Гедройц.

У семідзесятых гадах парыжская „Культура" выпрацавала таксама спосабы існавання дэмакратычнай апазіцыі ва ўмовах камуністычнай Польшчы, стала найбольш аўтарытэтным часопісам, які ўсялякімі дарогамі трапляў у рукі польскіх інтэлектуальных элітаў. Гедройц меў свой уклад у дэмакратычныя пераўтварэнні ў 1989 годзе. Сёння, калі ён гаворыць пра патрэбу развіцця беларускай культуры, таксама думае пра інтарэс Польшчы. Беларусь, не як геаграфічная, але як нацыянальная краіна патрэбна цэлай Еўропе, так як патрэбна дэмакратычная Расія. Гэтую ідэю ад некалькіх гадоў прапагандуе Ежы Гедройц.

**(ям)**

# Кот Арыстоцеля



*Епіскап Іаакаў і Яцэк Курань на дзядзінцы Супрасльскага манастыра.*

Кот у апошні час стаў модны ў публіцыстыцы: кот-шэрыф, кот-бегемот і г.д. Кот Арыстоцеля — гэта сумная казка, якую на пасяджэнні сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей у Бельску расказаў Сакрат Яновіч (высясняю: якога пара ўжо было назваць у рэдакцыі „Арыстоцелем”, ды і паслам гэта назва аказалася па душы). Такой казкай „пра ката” можна было б пужаць непаслухмяных беларускіх дзетак. Ды толькі навошта? Няхай, пакуль могуць, шчырымі вачыма глядзяць на Божы свет: і так неўзабаве пачуюць адвечнае слова: **кацап**, якое будзе суправаджаць іх на працягу жыцця. З катом — раней ці пазней — і так кожны з іх сустрэнецца.

А казка-анекдот Арыстоцеля прагучала больш-менш у той момант, калі на закіды беларусаў адносна трактавання беларускіх спраў у польскай дзяржаве члены сеймавай Камісіі маглі толькі ўсяго і адказаць, што яны ўсё гэта разумеюць, праблемаю займаліся здаўна і будуць займацца ёю далей. Яны, адным словам, з намі.

Пацыента, расказаў тады Сакрат (наш Арыстоцель), выпісвалі з псіхіятрычнай бальніцы. Я ж вам казаў, што я — не мыш, папракнуў іх пацыент. Дык во і мы ж так кажам, бо доследы паказалі, што вы сапраўды — не мыш. Ну, добра, кажа пацыент, але ж растлумачце вы гэта таму кату, што сядзіць побач з вамі!

Усе мы — як адзін — больш ці менш баімося гэтага ката. Тэлефануем на працу да сябра, а ён табе адказвае папольску. Значыць, нехта ёсць у яго пакоі, і мы адразу пераходзім на польскую, каб сябра не меў клопатаў з працай. Ён нават можа пісаць пра беларусаў і для беларусаў, але ніхто не мае права даведацца, што ў яго (католіка на сто працэнтаў) — беларуская душа. Trafiłeś wśród wrony — kracz, jak i ony!

Усе мы падсвядома прыцішаем голас на вуліцы, калі сустракаем „сваіх” і гаворым з імі па-беларуску. Ці толькі таму, што не хочам скампраметавацца, бо нехта можа падумаць, што мы — прасталюдзіны?!

А спрабуйце так сур'ёзна пагаварыць па-беларуску ўголас, то пабачыце, як гэта выглядае. Аня Бартуль з Нью-Йорка (як ні кажы, дачка тамашніх мільянераў), будучы ў Беластоку, спрабавала. Папрасіла нечага ў краме па-беларуску, дык сярод стаяўшых там бяззубых п'яніц выбухнуў такі смех, ды былі такія каментары, што давялося мне пасля напісаць на гэту тэму артыкул.

А запытайце ў Колі Ваўранюка, дык ён вам таксама раскажа цікавыя рэчы. Калісь прыехала яго маці да хворага сына ў бальніцу. Сядзіць каля сынавага ложка, размаўляюць па-свойму. У галаву не прыйшло ёй, што тут трэба пільнавацца, але хутка ёй пра гэта напомнілі. Падышла дакторка ды кажа: „Бадай у бальніцы прынамсі можна было б гаварыць на нармальнай мове?!”

І што тут дзівіцца, што калісь дзячкі з беластоцкага рэгіёна „Салідарнасць” („Ніва” тады мясцілася побач з іх пакоем) скардзіліся: „Panie, oni nawet na korytarzu rozmawiają po białorusku!”, даючы тым самым пасведчанне нелаяльнасці беларусаў у адносінах да польскай дзяржавы.

Разумею Арыстоцеля, які баіцца не тыгра, а звычайнага ката. „Трэба сядзець ціха!” — кажа яму войт у Крынках, быццам робячы ласку, што ён там, у бацькоўскай хаце, можа яшчэ жыць.

Яцэк Курань, старшыня Камісіі, так і сказаў: „Не мы вам будзем гаварыць пра вашу сітуацыю, а вы нам. Мы прыехалі, каб слухаць, а пасля ўплываць на факты”. Я думаю, што Камісія наслухалася дастаткова за тры дні сваёй пабыўкі ў Беластоку, Бельску, Супраслі і Гайнаўцы.

Адны з паслоў слухалі са здзіўленнем, нават з недаверам; іншыя — самі на сабе няраз адчулі эфекты тае кацінай дзейнасці.

У вышэйшых установах (асабліва на кіраўнічых пасадах) — першыя на адстрэл ідуць беларусы.

Кандыдат на віцэ-куратара адкінуты, бо быў праваслаўны.

Былі Дні Беластока — і ў іх аніводнай праявы беларускай культуры.

Задача польскіх гісторыкаў — шырыць польскую культуру на рубяжах. А хто ж будзе бараніць культуру карэннага беларускага насельніцтва?..

Журналісты абмінаюць праваслаўныя тэмы.

На беларускую (рускую, украінскую) культуру горад не дае нічога. Ніводзін мастацкі калектыў не атрымлівае ў даны момант ніякай дапамогі.

Каталіцкі касцёл атрымлівае датацыі, напрыклад, на стаянку аўтамабіляў каля магілак, а мы такой стаянкі ўсё яшчэ чакаем.

Плакаць хочацца, калі глядзіш перадачу Беластоцкага тэлебачання „Самі пра сябе”. Столькі ж можна паказаць праяў беларускага жыцця, дзейнасці беларусаў! А яе ўпіхаюць у няшчасныя 11 мінут, каб іншыя нацыянальнасці за гэты кошт маглі прэзентаваць на антэне выступленні ў іх замежных калектываў мастацкай самадзейнасці.

І як тут ні круці, а ўсё кату радасць. У кастрычніку мінулага года Супрасльскаму праваслаўнаму манастыру прызналі датацыю, палавіну якой ужо ў снежні забралі. Праўда, ваявода Крыстына Лукашук звярнулася сёлета да ўрада з просьбай датацыі для Супрасльскага манастыра і заадно для касцёла ў Харошчы (пароўну). Касцёл скарыстае, а Супрасльскі манастыр — ледзь выраўнае мінулагоднюю страту.

Разумею Арыстоцеля, які баіцца ката. Кожны з нас яго па-свойму баіцца.

Ада **Чачуга**

*Фота аўтара*

# „Басовішча” — мы яшчэ не збыліся



*Ствараецца мастацкі воблік першага „Басовішча”.*

Калі мы арганізавалі першае „Басовішча” — энтузіястычна і даволі няскладна, з вялікай затратай энергіі — наступныя яго выпускі ўяўляліся цьмяна. Было так, што ў Беларускім аб'яднанні студэнтаў з'явілася ідэя імпрэзы, спадабалася і ўсе кінуліся яе ажыццяўляць, не думаючы пра ніякі працяг.

Запрасілі мы ўсіх найлепшых у беларускай **нацыянальнай** музыцы нашага пакалення. Такімі ўяўляліся нам барды Сяржук Сокалаў-Воюш, Алесь Камоцкі і нікому ў Беларусі невядомы Віктар Шалкевіч. Прыехалі яшчэ Вольга Цярэшчанака і Кася Камоцкая, якая толькі што пачынала выступаць адна з гітарай. Бесканкурэнтнымі рок-гуртамі былі „Мроя” і „Уліс”. З лягчэйшым вясельна-танцавальным, але ж **беларускім** рэпертуарам даехала „Грамада”.

Калі запрашэнні былі даручаны, а затое не было ніякай гарантыі, што хто-небудзь прыедзе з, тады яшчэ, Савецкай Беларусі, кінуліся мы арганізаваць імпрэзу. На шчасце Аляксандр Карпюк быў яшчэ нежанаты (як амаль усе мы) і меў сваю асобную хату ў Валілах, у якой і атабарыліся мы на тыдзень перад фестывалем. Рабілі ўсё там: рыхтавалі начлегі, афармлялі харчаванне і стваралі, так сказаць, мастацкі воблік фестывалю. Раней мелі мы толькі запраектаваны Юркам Асеннікам сімвал „Басовішча” — сімпатычную „з крыламі свінню”. І абклеілі ўсю Беласточчыну плакатамі фестывалю, што не аказалася асабліва цяжкім, бо мелі мы ўжо дасведчанне дзвюх гарачых выбарчых кампаній.

Толькі пасля канцэртаў, прыбраўшы смецце і разлічыўшыся з марненькай датацыі, сталі думаць, што далей. Алесь Карпюк купіў барана, мачыў яго дзень, апрацаваў, у нейкім адмысловым адвары, а потым пяклі мы яго ўсю ноч, успамінаючы найлепшыя моманты найбольшага нашага пачыну. Ужо стала ясна, што „Басовішча” будзе працягвацца. Найвастрэйшыя спрэчкі разгортваліся вакол пытання, ці зможам мы яго арганізаваць кожны год, ці лепш рабіць яго радзей, але лепш.

Перамог энтузіязм ад першага поспеху і так год за годам, бесперапынна, прычакалі мы дзевятага Фестывалю музыкі Маладой Беларусі. Чаго толькі і не было за гэтыя гады на „Басовішчы”? Вырасла новае пакаленне арганізатараў і слухачоў, узнікалі і разляталіся гурты. Лявон Тарасэвіч запраектаваў новую сцэну, якая дала размах фестывалю (на жаль, збудаваць яе поўнасцю — з дахам — не ўдаецца дагэтуль). На гэтай сцэне выступалі, каб пералічыць толькі найлепшых: „Мясцовы час”, „Крама”, „Новае Неба”, „Палац”, „Тарнада”, польскія „Kasa Chorych”, „Illusion”, „BBK”, „Proletaryat” і нашы з Беласточчыны „Кардон” і „Брага”, якіх, пэўна, не было б, калі б не было „Басовішча”.

У 1991 годзе, яшчэ са старой драўлянай сцэнкі Ян Максімюк крычаў публіцы: *Мы жывем па той і па гэты бок лініі Керзана, у чаканні-спадзяванні цуду ўваскрашэння, уваскрашэння народу да нармальнага жыцця. Мы пяем і танцуем, пакуль што, спадзеючыся на цуд. Ён прыйдзе. І мы ўсе з вамі збудземся, заўтра, паслязаўтра, яшчэ не зараз.*

Мы ўсё яшчэ не збыліся. І лепшага ў беларускай музыцы ад таго, што мы чулі на першым „Басовішчы” не з'явілася. Няма лепшага гурту за „Мрою” (хай сабе яна называецца „NRM”), няма лепшых інструменталістаў за Лявона Вольскага і Славу Кораня, няма лепшых бардаў за Касю Камоцкую, Алеся Камоцкага, Віктара Шалкевіча.

І ўсё яшчэ вісяць на „Басовішчы” ўказальнікі намаляваныя ў 1990 годзе на Алесевым панадворку маёй жонкай, якая, праўда, тады яшчэ маёй жонкай не была.

Мікола **Ваўранюк**

*Фота з архіва аўтара*

# Шосты крыж „Зоркі” — Белавежа

5 і 6 чэрвеня г.г. у Белавежы адбыліся XIII Сустрэчы „Зоркі”, спалучаны з маляваннем крыжа. Гэта быў шосты крыж „Зоркі”. У яго маляванні бралі ўдзел дзеці з Бельска, Чыжоў, Гарадка, Белавежы, а таксама моладзь з беларускага ліцэя з Гайнаўкі. Усім кіраваў настаўнік пластыкі бельскай „тройкі” Алег Кабзар. Крыж гэты меў каля шасці метраў вышыні і памаляваны быў на блакітны колер. На крыжы дзеці і моладзь намалявалі 24 іконы розных святых. У некаторых удзельнікаў сустрэчы выявіўся талент да пісання ікон. Мне маляванне крыжа вельмі падабалася і думаю, што іншым удзельнікам таксама.

**Давід Рошчанка,**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**



*Размалёўка белавежскага крыжа.* Фота Ганны Кандрацюк

# Грыневіцкі летнік

У днях 22-29 чэрвеня ў Грыневічах-Вялікіх адбыўся летнік маладых гісторыкаў „Шляхам бежанства”, прысвечаны памяці праф. Ігната Даніловіча. У летніку прынялі ўдзел ліцэісты з Бельска і Гайнаўкі ды вучні бельскай „тройкі”. Арганізатарам летніка было Беларускае гістарычнае таварыства. Яго мэтай — збіранне ўспамінаў пра бежанства ды старых песень. Моладзь наведала многія вёскі Бельшчыны. Былі гэта, між іншым, Кнаразы, Сакі, Піліпкі, Пасынкі, Катлы, Агароднікі, Крывая. У пятніцу 26 чэрвеня ў Бельску моладзь удзельнічала ў навуковай канферэнцыі „Прафесар Ігнат Даніловіч: постаць, спадчына, эпоха”. 28 чэрвеня ўдзельнікі летніка выбраліся на аўтобусную экскурсію па маршруце: Бельск — Кляшчэлі — Грабарка — Сямятычы — Драгічын — Бельск.

**Міхась Сцепанюк**

# Чакаюць узнагароды

Увага дзеці!

У рэдакцыі „Нівы” знаходзяцца яшчэ ўзнагароды за правільныя рашэнні крыжаванак і конкурсаў, выйграныя вамі ў навучальным годзе 1997/98.

Ніжэй друкуем прозвішчы лаўрэатаў, якія не ўзялі яшчэ сваіх узнагарод.

1. **Бажэна Ляўчук**, ПШ у Дубічах-Царкоўных, узнагароды за крыжаванкі н-р 13 і 8.
2. **Анна Каліноўская**, ПШ у Махнатым, узнагарода за крыжаванку н-р 20.
3. **Паўліна Кавальчук** і **Ёля Дэнісюк**, ПШ у Крывой, узнагарода за крыжаванку н-р 20.
4. **Марцін Мялешка**, ПШ у Новым Корніне, узнагарода за крыжаванку н-р 17.
5. **Нэля Себятынюк**, в. Казлы, узнагарода за крыжаванку н-р 49.
6. **Марта Кучынская**, ПШ у Хрыбалах. Узнагарода за крыжаванку н-р 11.
8. **Давід Галоўскі**, ПШ у Орлі, узнагарода за крыжаванку н-р 8.
9. **Наталля Казлоўская** і **Бажэна Кананюк**, ПШ у Новым Корніне, узнагарода за крыжаванку н-р 18.
10. **Кася Андраюк**, ПШ у Дубічах-Царкоўных, узнагарода за крыжаванку н-р 18.
11. **Павал Ільяшук**, ПШ у Кленіках, узнагарода за крыжаванку н-р 26.
12. **Аня Камар**, ПШ у Кленіках, узнагарода за крыжаванку н-р 26.
13. **Дарота Барташэвіч**, ПШ у Махнатым, узнагарода за крыжаванку н-р 23.

## *Польска-беларуская крыжаванка № 29*

**Адказ на крыжаванку н-р 25**

Лозунг крыжаванкі Бажэны ЛЯЎЧУК: „Родная мова”.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Deszcz | | Jeż / Żyto | Jazz | Strach, przerażenie | | | | Rdza |
| | | | | | Drugi pokos trawy | | Rzeka Nur | |
| Bóg ognia | | | | Gatunek literacki | | | | |
| | | | | | Wąż | | | |
| Cło / Koza | | | | | Ara | | | |

# Селянін, мядзведзь і лісіца

***(беларуская народная казка)***

Араў селянін поле. Не канём, а валом. А вол такі лянівы быў, што проста бяда. Ні голасу не слухае, ні пугі не баіцца. Раззлаваўся селянін на вала ды як крыкне на яго:

— Ану, каб цябе мядзведзь задушыў!

Толькі ён так сказаў, аж тут і мядзведзь ідзе.

— Ну, давай, — кажа да аратага, — свайго вала. Я яго задушу.

Пачухаў селянін патыліцу. Шкада стала яму вала. Ды і араць не будзе на чым. Сам жа сахі не пацягнеш.

Вось ён і пачаў прасіцца ў мядзведзя:

— Дай, — кажа, — хоць загон дакончу. А ты схадзі тым часам за мяжу, у быльнёг, адпачні там.

— Добра, — згадзіўся мядзведзь. — Спяшацца мне няма куды.

Пайшоў ён за мяжу і лёг адпачываць.

Бяжыць з лесу лісіца, спынілася каля селяніна:

— Тру-ру-ру! Гэй, чалавеча, ці не бачыў ты тут ваўкоў-медзвядзёў? Стральцы едуць, пра іх пытаюцца.

— Не, лісанька, не бачыў, — адказвае ён.

А хітрая лісіца пакруцілася, пакруцілася каля воза ды зноў пытаецца:

— А што гэта за мяжою ляжыць?

— Калода на лучыну, — кажа селянін.

Лісіца памахала хвастом:

— Каб гэта была калода, дык яна б на возе ляжала...

Сказала так і пабегла ў лес.

Пачуў гэта мядзведзь і просіцца ў селяніна:

— Палажы мяне на воз.

Селянін палажыў яго на воз.

Зноў прыбягае лісіца.

— Тру-ру-ру! Гэй, чалавеча, ці не бачыў ты ваўкоў-медзвядзёў? Стральцы едуць, пра іх пытаюцца.

— Не, не бачыў...

— А што гэта ў цябе на возе ляжыць?

З маіх падарожжаў

# У Старым Карынфе



У сямі кіламетрах ад сучаснага грэцкага горада Карынф, які ляжыць на поўначы Пелапанеса, знаходзіцца Archea Korinthos — старажытны Карынф.

Гэты старажытны горад ляжаў на скрыжаванні марскіх і сухапутных дарог, якія спалучалі кантынентальную Грэцыю з Пелапанесам. Горад меў два парты: адзін — на Іонскім моры, а другі — на Эгейскім, і дзякуючы такому месцу жыхары Карынфа былі вельмі багатыя.

Рамеснікі рабілі тут розныя тавары з бронзы і керамікі, а асабліва посуд, які прадавалі ва ўсіх міжземнаморскіх краінах. Гэты посуд грэкі выменьвалі таксама на пшаніцу, якую перахоўвалі ў Карынфе, а адтуль распаўсюджвалі яе па цэлай Грэцыі.

Старажытны Карынф быў сімвалам камфортнага жыцця. Далёка вядомай была прыгажосць дзяўчат са святыні Афрадыты, якія не шкадавалі сваіх ласк мужчынам.

Руіны старажытнага Карынфа займаюць значны абшар. Ёсць тут рэшткі гарадскіх муроў, стадыёны, могілкі. Аднак, галоўнай будоўляй, якая дае ўяву аб велічыні і рангу гэтага горада, з'яўляецца святыня Апалона.

У гэты горад у рымскія часы была перанесена з Афін сталіца грэчаскай правінцыі.

Седзячы сярод руін Старога Карынфа, мы патрапілі на старажытны туалет. Ракавіны з каменя захаваліся да сёння і некаторым з нас нават удалося на іх пасядзець.

Варта сказаць яшчэ пару слоў пра Карынфскі канал. Яго пачалі капаць яшчэ ў 602 годзе да новай эры. Значна пазней працягваў будову канала цэзар Нерон, але і ён адмовіўся. Аднак жа лінія канала запраектавана была так дакладна, што французы, якія пачалі працы пры канале аж у 1882 годзе, не ўвялі ніякіх змен. Закончылі будоўлю самі грэкі ў 1893 годзе.

Карынфскі канал вельмі прыгожы: роўненькі — пад шнурок. Мы стаялі на мосце і аглядалі яго. Даўжыня канала — 6,5 кіламетра, шырыня — 24 метры (больш-менш столькі ж, што Суэцкі канал).

Ну, а што датычыць сучаснага Карынфа, дык яго, як і старажытны горад, часта руйнавалі землятрусы. Апошні меў месца ў 1981 годзе. Ён пазбавіў даху над галавой тысячы жыхароў, якія амаль цэлы наступны год былі вымушаны качаваць у палатках. Новыя будынкі, пабудаваныя з бетону, бяспечныя, але зусім непрыгожыя.

Калі мы вярнуліся дахаты, дзедка сказаў мне, што не было дня, каб ён у той Грэцыі не думаў пра землятрус. Дзякуй Богу, што я пра гэта там не ведала.

**Адрыяна Семянюк**

### Адурманілася ноччу

Горад ужо спіць
ёсць чорная ноч
а месяц свеціць
беленькім святлом.
Птушкі співаюць
начныя песні
я мушу чакаць
ці хоча прыйсці
паслухай.

Адурманілася зорамі
што ўсюды мігцяць
адурманілася марамі
чакала да світання.
Адурманілася кветкамі
што ў ночы блішчаць
адурманілася слязамі
чакала да світання.
Глядзіцца на неба
у чорную даль.
Глядзіцца на неба
у зоры мар.

Сонца ўстала
і горад ажыў
загінуў месяц
ды хтосьці бяжыць.
Запозна пытаць
ці яшчэ вернецца
вернуцца зоры
і месяц белы?

### Не вер мне

Як здабыць мараў верх
дзе шукаць адказу...
рашылі памагчы
а што далей?..

„Гэта ён?"
А ты не вер мне
не вер мне
на злосць.

Шмат часу каб думаць
ды выбраць роўны лёс
трэба ўжо разважаць
хто кім ёсць...

Як хочаш, паглядзі ты
„Гэта ён!"
А ты не вер мне
не вер мне
на злосць.

Навошта
ты думаеш, што свет згорнеш
найлепшы ты — штосьці згубіў.

Навошта мне гэтыя хмары,
навошта мне гэтыя зоры
як сонца пячэ.
Навошта мне месяц белы,
навошта ты — незразумелы
хто ты — згадай.

Знаю твой твар, голас як з мар,
ведаць яму тваё імя.



*Еля АНТАНЮК — сёлетняя выпускніца ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Прымала ўдзел у II Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы і заваявала месца лаўрэаткі. Вершы Ёлі вылучаны таксама ў III Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы.*

*Яе настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч сказала:*

*— Еля зразу пачала пісаць на беларускай мове. Дэталь цікавая, бо большасць дзяцей піша сёння найперш папольску, а пасля (таксама на конкурс) перакладае на беларускую мову.*

*Зорка*

* * *

Яшчэ адзін крок
а ў далі гадзіннік
кончыцца ўрок
ды настаўнік быццам знік.
Адчыненыя дзверы
можна пабачыць штосьці.
Званок —
і кончыцца ўжо.

Адзін раз
у гэтым месцы
ўсё змянілася каля нас.
Невядома ці ўрэшце
усё ў парадку ёсць.

Столькі чорных хмар
ёсць на калідоры
а адной белай
здаўна ўжо нідзе няма.
Толькі раз убачыш яе
пакуль зноў не адыдзе.
Званок —
і кончыцца ўжо...
і кончыцца ўжо ўсё.

### Дні як вецер

Не кожны дзень
ёсць такі як хочаш
ці гэта сон, можа ява?
Быццам вецер
ляцяць нашы дні
каторы твой, каторы мой?

Чакай ты ветру
у жыцця полі.

— Калода на лучыну.

— Каб гэта была калода, яна б вяроўкаю была прывязана.

Сказала так і пабегла ў лес. Мядзведзь кажа селяніну:

— Прывяжы мяне вяроўкаю.

Узяў селянін вяроўку ды так увязаў мядзведзя, што той і не зварухнецца. А лісіца тут як тут:

— Тру-ру-ру! Гэй, чалавеча, ці не бачыў ты ваўкоў-медзвядзёў? Стральцы едуць, пра іх пытаюцца.

— Не, не бачыў.

— А што гэта ў цябе на возе ляжыць?

— Калода на лучыну.

— Каб гэта была калода, у ёй бы сякера тырчала.

Сказала і пабегла ў лес. Мядзведзь дужа напужаўся стральцоў, просіць селяніна:

— Зрабі, каб на мне сякера тырчала.

— Добра, — кажа селянін.

Узяў ён сякеру і ўсадзіў з размаху ў мядзведзя. Мядзведзь трохі паварушыўся — ды і дух з яго вон. А лісіца зноў тут.

— Ну, цяпер дай мне гасцінца за вала, — кажа да селяніна.

— Якога?

— Мяшок курэй.

— Добра, — кажа селянін, — дам табе гасцінца. Пачакай трошкі.

Пайшоў селянін дахаты па курэй, а тут і сапраўды наехалі стральцы з сабакамі. Убачылі сабакі лісіцу ды за ёю. Лісіца і ад курэй адраклася. Ледзь да сваёй нары дабегла.

Ускочыла ў нару, задыхалася.

А сабакі стаяць, лісіцу вартуюць, з нары не выпускаюць.

Надакучыла лісіцы ў нары сядзець, парашыла яна ад сабак адкупіцца.

— Вочы, вочы, — кажа лісіца, — што вы рабілі, як я ад сабак уцякала?

— Глядзелі, куды табе бегчы.

— А вы, вушы?

— Слухалі, ці блізка сабакі.

— А вы, ногі?

— Хутчэй беглі, цябе ратавалі.

— А ты, хвост, што рабіў?

— А я ўсё то за пень, то за калоду чапляўся.

— Ну, хвасцішча-дурнішча, аддам жа я цябе сабакам!

І выставіла хвост з нары:

— Наце вам, сабакі, хвост!

Сабакі ўхапіліся за хвост ды і лісіцу разам з ім выцягнулі.

# Не дачакаўся прызнання

*(працяг; пачатак у 28 нумары)*

**Анатоль Чарапінскі**: Маці Яна Тарасевіча памерла ў Пецярбургскім клінічным шпіталі ад груднога рака. Бацька вельмі яе кахаў. Вяртаючыся з паховін памёр у цягніку.

**Ганна Кандрацюк**: ***Пры чым тут віна дзіцяці?***

— Раней яшчэ здарыўся выпадак у царкве. Маці ўзяла яго на рукі, каб паднесці да прычасця. Бацюшка прычасціў, усё як след..., а тут раптам як не раздасца жахлівы крык! Бо разам з прычасцем папаўся паламаны зуб. І як Янка выцягнуў неспадзеўку з рота і пабачыў стары, гнілы зуб — ашалеў, з усяе сілы нагой ударыў маці ў грудзі. Пазней думаў, што ад гэтага ўдару ўзяўся рак.

***— Дзе пахаваны бацькі кампазітара?***

— Не ведаю. Думаю, што на Гродзеншчыне.

***— Віктар Скорабагатаў піша, што бацька памёр у цягніку па дарозе са Старой Руссы ў Пскоў. З гэтага вынікае, што маці пахавалі ў Старой Руссе. А дзеці — Ганна, Сцяпан і Ян — асталіся ў Пскове. Наймалодшы Кастусь памёр тры гады раней, а яго магіла знаходзіцца ў Саколцы. Апошняя вестка падказвае, што Тарасевічы жылі таксама ў Саколцы і там фактычна нарадзіўся кампазітар.***

— Здаецца, аднак, што маці пахавана на Гродзеншчыне, пры сям'і. Праўда, Тарасевічы жылі і ў Пскове. Але найбольш успамінаў датычыла Старой Руссы. Прафесар расказваў, што пасля смерці бацькоў са Старой Руссы забрала іх нейкая жанчына. Вывезла іх у Пецярбург і мінула многа часу, пакуль не адшукала іх цётка з Шындзеля.



*Ян Тарасевіч з цёткай Леакадзіяй Улазоўскай.*

***— Стрыечная сястра маці, Леакадзія Улазоўская з падсакольскага Шындзеля. Кім былі Улазоўскія?***

— Улазоўскі па нацыянальнасці быў украінцам. Да студзеньскага паўстання 1863 года займаў пост губернатара Гродна. Не любіў маскалёў і каб не ангажавацца ў здушванне паўстання, адказаўся ад пасады губернатара. Пасля гэтага купіў маёнтак у Шындзелі і з'ехаў на Сакольшчыну. Служыў тутака калежскім саветнікам. Ведаю таксама, што ў Тарасевіча была цётка ў Вільні (з Кушаляў), якая дапамагала *выкручваць* паўстанцаў з турмы.

***— Маем пачатак ХХ стагоддзя — Ян, Сцяпан і Ганна Тарасевічы прыязджаюць у Шындзель. Будучаму кампазітару было тады сем гадоў. І ўжо ў той час кампанаваў, іграў на раялі.***

— Улазоўскія не мелі сваіх дзяцей. Калі сталі апекунамі і прыёмнымі бацькамі для сірот-сваякоў, задбалі пра іх адукацыю і выхаванне. Нанялі нават настаўніцу музыкі.

***— Ці ведаеце яе прозвішча?***

— На жаль, не. Толькі такая дэталь мне запамяталася. У гэтай настаўніцы быў перабіты нос; пайшла яна аднойчы ўзяць нешта з куфра і века ўдарыла яе ў нос.

***— Леакадзія Улазоўская дамагласся пенсіі ўсім траім дзецям. Яна Тарасевіча на дзесятым годзе жыцця аддалі ў Пскоўскі кадэцкі корпус. Такую самую адукацыю вызначылі брату Сцяпану. Пасля, каб было бліжэй хаты, перавялі іх у Полацкі корпус. А што з музыкай? „Вундэркінда" паслалі ў армію?***

— У той час вайсковая адукацыя лічылася самай лепшай для сыноў з г.зв. добрага дому. Прафесар заўсёды хацеў ісці ў кансерваторыю. Аднак сям'я не пагаджалася. Бо што гэта за прафесія — музыкант? Тут арыстакратычны род, а ён задумаў музыкантам нейкім быць! І трэба было закончыць кадэцкі корпус у Полацку, пасля якога ён маментальна падаўся ў Пецярбург штудзіраваць музыку. Без ніякіх праблем паступіў у кансерваторыю.

***— Адзначым, было яму тады 17 гадоў.***

— Спачатку вучыўся на фартэпіянным факультэце ў прафесара Абрамыча, знамянітага педагога, вялікага сябры Чайкоўскага. Потым у прафесара Быстрова і прафесара Глазунова. Час ад часу быў вучнем шапэністкі Ісупавай. Першую ступень навучання закончыў выкананнем Чацвёртага фартэпіяннага канцэрта Рубінштэйна і ва ўзнагароду атрымаў фартэпіяна. І прапанову выкладаць у прыватнай школе Быстрова.

***— У сваёй біяграфіі Ян Тарасевіч піша: „У 1912 г. я скончыў курс па класе раяля і тады ўжо, маючы многа знаёмых і нават прыяцеляў-прафесараў, свабодна мог займацца вывучэннем гісторыі музыкі і кампазіцыі. У астатнія два гады перад вайной паддаўшыся ўплыву прафесара І. Віталя, я ўглыбіўся ў нашу нацыянальную музыку".***

— Ужо тады выдавецтва Юргенсона друкавала яго творы для фартэпіяна. Найхутчэй у той час ён ездзіў па Беларусі збіраць фальклор, бо беларуская песня была яму крыніцай натхнення.

***— Існуе нават асобнае выданне беларускага фальклору з наваколля Бельска-Падляшскага. Значыць і па вёсках Бельшчыны кампазітар вандраваў у пошуках натхнення.***

— Дасканала арыентаваўся, дзе і якія на Беласточчыне выступаюць напевы, асаблівасці. Ведаў таксама тонкасці дыялектаў і гаворак. Меў абсалютны слых.

*(працяг у наступным нумары)*

**Гутарыла Ганна Кандрацюк**

# Экскурсія ў кашубскую вёску




*Беларуска-кашубская група ў Хмельне. Самы высокі — Станіслаў Клімовіч.*

Дамоўленая на 11 чэрвеня (Божае Цела) сустрэча беларусаў Трыгорада і ваколіц з беларусамі Варміі і Мазур не адбылася. Сябры з Ольштына не даехалі. Можа ў будучым годзе прыедуць?

Едзем затым у Хмельна, куды запрасіў нас Станіслаў Клімовіч, жыхар тыповай кашубскай мясцовасці.

Незалежна ад надвор'я трэба падтрымаць шматгадовую традыцыю і падацца ў турыстычную экскурсію ў Божае Цела. Да пятай гадзіны раніцы ішоў праліўны дождж. Мокра і холадна. „Хочацца табе валэндацца ў такую непагоду, на старыя гады?" — пытае рытарычна жонка. „Як гэта хочацца? — традыцыя ёсць традыцыя".

У сем раніцы спакаліся мы, беларусы Трыгорада, на станцыі Гдыня-Глувна. Дождж сціх. На пероне натоўп турыстаў чакаў бану, якая ад'язджала ў 7[22] у Кашубскую Швейцарыю. Бана — гэта назва гістарычнага ўжо двухпавярховага вагона, які ў нас ездзіў з Бельска ў Белавежу-Палац праз Гайнаўку. Для дзяцей — радасць, экзотыка, для нас — настальгічны ўспамін маладосці.

Без перашкод даехалі мы да Самоніна, акуратнай, невялічкай, затое з буфетам, вузлавой станцыі. Пераселіся ў чарговую бану, якая давезла нас у Гарч, дзе чакала нас двухкіламетровая вандроўка ў Хмельна з захаваннем правіл дарожнага закона. Наперадзе дзеці: Цэліна, Оля і Тамаш; мамы Лена і Аня з рукой у гіпсе, затым Чэслаў Менін, ну і я. З левага боку — мглістае Клодна — возера, з самотным рыбаком у лодцы, справа — нівы жыта з сінімі васількамі. Калі мы пераступілі мяжу Хмельна, пачало імжыць. Добра, што прыехалі сябры з Прушча-Гданьскага Аляксандр Юзэфовіч з жонкай Марысяй, Марыся і Багдан Палюховічы — будзе весялей нам мокнуць.

Каб не кідацца вельмі ў вочы ўдзельнікам святой працэсіі, хуценька мінулі мы гістарычны касцёл і падаліся ў школьную турыстычную базу, якой упраўляе Станіслаў Клімовіч.

Чаму Хмельна? Не толькі таму, што запрасіў нас туды спадар Клімовіч, але яшчэ таму, што гэта цэнтральнае месца Кашубскага краязнаўчага парку. Таму, што тут кашубшчына бароніцца ад знікнення, а прырода — ад зніштажэння. Зямля тут пясчаная, неўрадлівая. Бяда выгнала кашубаў за хлебам у збавіцельную Амерыку, а перад усім у мора і ў прамысловыя гарады Гдыню і Гданьск. Лёс тутэйшага люду падобны да лёсу жыхароў нашых прыпушчанскіх вёсак, з той толькі розніцай, што кашубаў лічылі палякамі, а беларусаў — рускімі, якіх цар насяліў варварскімі азіяцкімі плямёнамі, калі русіфікаваў цывілізаваную еўрапейскую Польшчу.

Турыстычны даведнік паведамляе, што Хмельна — „wieś letniskowa nad jeziorami Białym i Kłodno. Na przesmyku między nimi grodzisko, pozostałość po grodzie kasztelańskim, istniejącym jeszcze w XIV w. We wsi czynny 100-letni zakład ceramiczny rodu Neclów. Przy tzw. Kaczym Rynku chata z XIX w." Крытая яна саломай. Цудоўна распаложана гэта вёска. Жыве і развіваецца, перад усім, з турызму. Затым калі С. Клімовіч (родам з Саколкі, яго бацькі — эмігранты з Вільні) скончыў у 1982 годзе геаграфічны факультэт Гданьскага універсітэта, выбраў жонку і Хмельна — усю кашубшчыну ў адным месцы. Настаўнічае ў мясцовай школе, вядзе турыстычную маладзёжную базу, з дзецьмі збірае экспанаты для этнаграфічнага музея, у доме культуры вядзе танцавальны і песенны кашубскі калектыў. Запрашаў наведваць часцей Хмельна. Дождж ішоў далей. Яшчэ супольны здымак, наведванне Керамічнага музея Нэцляў і вяртанне дахаты з галавой і сэрцам перапоўненымі ўражаннямі.

**Міхась Куптэль**

*Фота Лены Глагоўскай*

# Колькі культуры — столькі нашай тоеснасці

**У галіне культуры заўсёды бываюць нейкія складанасці. Асабліва часта адмоўна яны адбіваюцца на стане культуры ў гмінах. Сёння няма такога ўздыму, які наглядаўся ў самадзейным руху 60-х гадоў. Цяпер дзейнасць гмінных дамоў культуры нярэдка абмяжоўваецца да народнага фэсту, падмацаванага палітычнай агітацыяй і застоллем. Сяляне пераймаюць гарадскія ўзоры, забываючы пра багацце народнай культуры, саромеючыся яе. Моладзь, якая яшчэ засталася на вёсцы, пакінута сама сабе і калі не будзе ўздзеяння на яе з боку мясцовых культурных устаноў, чакае нас рост адмоўных з'яў, адным словам — паражэнне.**



*Калектыў „Арляне" з Орлі, які нядаўна адзначаў свой 50-гадовы юбілей, ужо восем гадоў вядзе культурны абмен з Беларуссю.*

Чым цяпер займаюцца дамы культуры спытаў я работнікаў культурных устаноў сямі гмін „Усходняй сцяны". Выступаючы ў ролі ініцыятараў культурнага жыцця на сваёй тэрыторыі арганізуюць яны перш за ўсё забаўляльныя мерапрыемствы, адзначаюць гадавіны, ладзяць вечарыны і фэсты, апякуюцца самадзейнымі калектывамі, а нават выдаюць лакальныя часопісы. У тыповым гмінным асяродку культуры, які найчасцей знаходзіцца ў старым будынку, працуюць два штатныя работнікі. У структуры некаторых ГОКаў знаходзяцца бібліятэкі ды іншыя культурныя ўстановы.

Чым тады вылучаюцца паасобныя асяродкі культуры?

Пры Гмінным асяродку культуры ў **Орлі** дзейнічае самадзейны калектыў „Арляне", які нядаўна адзначыў 50-годдзе. Займаецца з ім інструктар з Гродна Мікола Фадзін. Некалькі разоў у год выступаюць тут калектывы з Беларусі. У снежні 1997 года Сцяпан Копа заснаваў калектыў у Маліннiках. Раней у школе арганізаваліся заняткі па саломапляценні ў рамках акцыі „Прызабытыя прафесіі".

У **Дубічах-Царкоўных** ГОК працуе сумесна з бібліятэкай. У летні сезон культурная дзейнасць галоўным чынам накіроўваецца на абслугоўванне турыстаў. Не забываюць тут пра самотныя асобы, якіх ГОК запрашае на супольную куццю — урачыстую вячэру напярэдані Каляд. Сімптомам новага з'яўляецца арганізаванне „Валянцінак" — амерыканскага свята закаханых.

У **Чыжах** ужо дзесяць гадоў працуе фальклорны калектыў „Чыжавяне", якому дапамагае інструктар з Беларусі Міхал Аўхіменя. Самадзейныя калектывы дзейнічаюць таксама ў Курашаве і Збучы. Курашаўскія „Незабудкі", якімі кіруе Сяргей Аксянцюк, спяваюць ужо 22 гады. Заснаванымі тры гады таму „Збучанкамі" апякуецца Сямён Карпілюк са Старога Корніна. А ў школе на аснове „Вясёлкі" стварыўся новы калектыў „Сонейка".

**Гарадок** вядомы перш за ўсё хорам, у якім спяваюць Ніна Цыванюк і Юрка Налівайка, ды рок-гуртом „Брага". Выходзіць тут двухмоўны часопіс „Гарадоцкія навіны". Мясцовы ГОК арганізаваў выстаўку сатырычных рысункаў Анджэя Млечкі, Гнідзейкі і ўраджэнца Гарадка Адама Семенчыка. У мінулым годзе пенсіянеры заснавалі калектыў, у рэпертуары якога польскія і беларускія песні. У Гарадоцкай гміне існуе добры грунт для культурнай дзейнасці, паколькі дзейнічае тут вядомы мастак Лявон Тарасэвіч, які многа зрабіў для асяроддзя.

У **Крынках** калектывы „Pogodna Jesień" і „Heksa" карыстаюцца польскім рэпертуарам. Пры ГОКу працуюць танцавальны і пластычны гурткі для школьнікаў. На пластычных занятках дзеці выконваюць аздобы са скуры, падтрымоўваючы такім чынам гарбарскія традыцыі мястэчка. 26-27 ліпеня праводзяцца Дні Крынак. Запрашаюцца тады таксама польскія калектывы з Гродна. У мінулым годзе адбыўся I Раённы агляд самадзейных калектываў пенсіянераў. Другі адбудзецца ў жніўні. У ГОКу можна вучыцца іграць на піяніна і гітары, а заняткі вядуць настаўнікі з Гродна.

ГОК у **Нарве** апякуецца беларускімі калектывамі „Тыневічанкі" і „Крыўчанкі". Працуюць тут дзіцячы калектыў сучаснага танца і два маладзёжныя тэатры: „Клямка" і Маладзёжны самадзейны тэатр. З лістапада мінулага года вядуцца заняткі ў гуртку саломапляцення пад кірункам народнага ўмельца з Козлікаў. Два гады таму выдавалася яшчэ свая газета „Nowiny z gminy". У Ласінцы штогоду праводзяцца агляды беларускіх народных абрадаў.

Самую багатую дзейнасць вядзе асяродак культуры ў **Белавежы**, у структуры якога маецца бібліятэка і кінатэатр. Разам ва ўсіх установах працуе 11 чалавек. Гмінная бібліятэка спецыялізуецца ў збіранні кніг аб пушчанскім рэгіёне і Белавежы. Белавежскі асяродак культуры (БОК) выдае газету „Głos Białowieży", вядзе вакальна-танцавальны калектыў „Skrzaty", калектыў „Białowieża", хор „Leśniczanka", клубы аматараў этнаграфічнай кнігі, следапытаў, пенсіянераў, любіцеляў фільмаў. Арганізуе два вялікія мерапрыемствы для дзяцей — зімовы адпачынак і мастацкія сустрэчы „Усе дзеці — нашы", якія з гэтага года набываюць міжнародны характар. БОК ладзіць святкаванні ў гонар 400-годдзя Белавежы і з'яўляецца суарганізатарам Купалля. Апрача гэтага праводзяцца агляды фільмаў у рамках фестывалю „Projektor '98", а галерэя „оВОК" ладзіць шматлікія выстаўкі. 30 чэрвеня г.г. у Белавежы адкрыўся музей гісторыі і культуры, які паўстаў у рамках праграмы „Спадчына дзеля будучыні", дзякуючы падтрымцы Фонду Баторыя.

Дырэктар БОКу заўважыў, што мясцовы фальклор прападае ў культурнай белавежскай мешаніне і спробы стварыць беларускі народны калектыў аказаліся безвыніковымі. Ён таксама мяркуе, што ваяводства не аказвае належнай увагі справам культуры ў гмінах і перастаў паведамляць Ваяводскі асяродак анімацыі культуры аб сваіх планах. Прычынай таму было, між іншым, схаванне пад сукно ваяводскім чыноўнікамі міністэрскай праграмы „Талент".

Штогоду Белавежу наведвае 96 тысяч турыстаў. У мінулым годзе мерапрыемствы, арганізаваныя БОКам, наведала 30 тысяч чалавек.

Па-рознаму паасобныя ГОКі ставяцца да „Нівы" ці „Czasopisu". У Орлі іх не выпісваюць. У Гарадку і Нарве падпісваюцца на абодва выданні, а ў Крынках — толькі на „Czasopis". А ў Белавежы, па словах дырэктара БОКу, няма зацікаўлення „Нівай".

* * *

З праведзеных мною размоў вынікае, што культурная прапанова паасобных гмінных асяродкаў культуры залежыць перш за ўсё ад людзей. У больш-менш падобных умовах адны ГОКі працуюць ледзь прыкметна, у іншых жыццё бурліць шматлікімі культурнымі мерапрыемствамі і ініцыятывамі.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Урачыстасць

26 чэрвеня г.г. у Бельскім доме культуры адбылася ўрачыстасць уручэння ўзнагарод удзельнікам III Агульнапольскага конкурсу беларускай прозы і паэзіі. Паехаў і я, бо атрымаў запрашэнне на гэту сустрэчу. Мне гэты дзень не вельмі адпавядаў, бо акурат захварэў мой супрацоўнік, пісьманосец, і мне давялося абслугоўваць свой і яго *тэрэны*; цяжка аб'ехаць адзінаццаць вёсак. Па гэтай прычыне не мог я ўзяць водпуск і толькі з начальнікам пошты дагаварыўся выканаць усе мае абавязкі пасля вяртання.

У Бельску сустрэў я сваіх знаёмых па пяру Аўрору і Мікалая Лук'янюка. Сустрэў таксама мілую і прыгожую спадарыню, якая першаю прадставілася мне: — Цётка Мальвіна... і падзякавала мне за прысвечаны ёй верш у „Ніве". Прыемна пачуць, калі нехта дацэніць высілак аўтара верша; гэта быў першы выпадак падзякі мне за верш, таму і я дзякую спадарыні Мальвіне за цёплую ацэнку. Бо сколькі я дагэтуль асоб хваліў, ніхто за гэта мне не падзякаваў, а некаторыя, асабліва „белавежцы", наадварот — сталі амаль ворагамі. Бо як гэта можа быць, каб просты Панфілюк асмеліўся кранаць іх „залатыя" думкі, якія чамусьці па бібліятэках запыляюцца ад пастаяннага „адпачынку". І таму хай яны хваляць адзін аднаго, а я лёгка знайду іншую тэму сваім вершам.

Урачыстасць адкрыў старшыня Беларускага Саюза Яўген Вапа, а пасля пра мэты конкурсу гаварыў галоўны рэдактар „Нівы" Віталь Луба. Пераможцы конкурсу атрымалі грашовыя ўзнагароды, а апошнія — сумку і дзве кніжкі. Мне таксама дасталася сумка і дзве кніжкі, бо на гэты раз заняў далейшае месца. Мяркую, што выйшла так таму, што: па-першае — я не паэт, а па-другое — натхненне не наведвае мяне на планавыя мерапрыемствы; у мяне вершы атрымоўваюцца нечакана. Але гэта не найважнейшае, а сама важнае тое, што сустрэўся з дарагімі землякамі і старэйшага, і малодшага пакаленняў, якія не цураюцца роднай мовы і адважна ідуць з пяром наперад.

Пасля ўручэння ўзнагарод удзельнікі конкурсу дыскутавалі пра змест „Нівы". На многіх ліквідацыя „Сардэчных тайнаў" і „Парнасіка" навяла сум. А збоку я пачуў, што замнога пахвальна пішацца пра святароў, так як некалі пісалася пра першых сакратароў партыі. Пра гэта трэба падумаць і не асмешвацца, бо не ўсім ім дарагое роднае слова.

Спяшаў я на аўтобус і разам са сп. М. Лук'янюком, ідучы на вакзал, абменьваліся мы добрымі думкамі, што мы аднак жывём і жыве наша родная мова. А вярнуўшыся дадому, адразу павёз сваю і калегі пошту. Цяжка было, бо цяжка жывецца ў нас.

**Мікалай Панфілюк**

# Купальскі фестываль

Рок-фестываль „Купалле" з газетай „Беларуская маладзёжная" прайшоў 25 чэрвеня ў Мінску. У парку імя Горкага ў 17⁰⁰ сабралася каля 500 маладых людзей. Перад моладдзю выступілі вядомыя беларускія рок-гурты „NRM", „Уліс", „Новае неба", „Склеп", „Зьніч", „Камелот", „Мясцовы час", а таксама вядомы беларускі рок-гурт „Крама", які прэзентаваў новы альбом „Што дапаможа нам?". Арганізатарамі рок-фестывалю выступілі газета „Беларуская маладзёжная" і арганізацыя Беларуская музычная альтэрнатыва.

**Ян Абадоўскі**

# Пушча на паштоўках

У апошні дзень чэрвеня г.г. у продажы паявілася новая серыя паштовак з выявай Белавежскай пушчы. Тэмаў на іх восем — зубр, малады тарпанападобны конік, дубы ў асенняй імгле і некалькі пушчанскіх краявідаў. Аўтарамі здымкаў з'яўляюцца Аляксандр Болбат (5) — намеснік дырэктара Белавежскага нацыянальнага парку і Анджэй Кэчынскі (3) — навукова-даследчы працаўнік той жа ўстановы. Як няцяжка здагадацца, успомненую серыю паштовак (агульным тыражом 16 тысяч штук) выпусціў Белавежскі нацыянальны парк.

**Пётр Байко**

# Казус шэрага каменя

Было гэта даўно, у пачатку пяцідзесятых гадоў. Тады ў Бельску-Падляшскім па вул. Спартовай 6 існаваў Аддзел сельскай гаспадаркі. У тым аддзеле быў рэферат ветэрынарыі, якім кіраваў лекар Парголь. Машыністкай у яго працавала Людміла М. са Шчытоў-Дзендзялова. Ветэрынар быў з Любліна і вельмі непрыхільна ставіўся да „тутэйшых":

— Ты, дзяўчыно з *псявярой*, піш, што я табе кажу. Ты чубарка...

Людміла М. была высокай, чарнавокай, прыгожай і працавітай жанчынай з крыху прадаўгаватым тварам. Прыйшла да мяне з плачам:

— Так і так... Чапляецца ні за што, абзывае... Што рабіць? Можа інжынер мне што паможа...

— Люся! — гавару я ёй. — Пачытай газеты: усе пішуць пра „нацыянальную еднасць". Апрача таго я сам на прэзідыуме ў Беластоку чуў ад карэспандэнта „Праўды", што тут няма беларусаў; беларусы выехалі ў 1945-м годзе. А што ў прэзідыуме Фёдараў, рускі стараверз Сувальшчыны, — аднак я яму не веру: думаю, што ў яго адно толькі рускае прозвішча асталося і больш нічога. Няма каму скардзіцца... Мо калі ўзнікне нагода, што я буду мог табе дапамагчы...

Пайшла заплаканая Люся да свае машынкі.

І вось аднойчы запрасілі мяне ў Белавежу, у Лясны тэхнікум на экзамены. Паехаў я; прысутнічаў там на экзаменах па матэматыцы, геадэзіі і глебазнаўстве. Вяртаўся ў Бельск пад вечар, поездам.

У Гайнаўцы ў маё купэ дасеў мой знаёмы, Таркевіч, сакратар тамашняга СЛ; даязджаў ён у Гайнаўку з Бельска. Неўзабаве ля Таркевіча сеў ветэрынарны фельчар з Кляшчэляў. Я таго фельчара добра ведаў: хадзіў ён каля жывёлы на рынку з нейкім шпілём; што ім рабіў — не магу сказаць. Мяне ён не знаў, а я не ведаў ягонага прозвішча. Ветэрынар ехаў у Кляшчэлі цераз Бельск, бо чыгуначная лінія з Гайнаўкі ў Чаромху была закрыта — рамантавалі мост.

Першым адазваўся Таркевіч. Спытаў мяне, адкуль я еду.

— З Белавежы, — адказаў я яму. — Сустрэў я там аднаго вельмі вучонага і добрага чалавека: прафесара доктара ветэрынарыі Кульбіцкага Стэфана. Прыехаў ён з Любліна; я бачыў ягоны ангаж, падпісаны дырэктарам дэпартамента ветэрынарыі і ваяводскім лекарам. Запрасіў ён мяне да свайго дому. У яго жонка і дзве дачкі: 8-гадовая Марта і 11-гадовая Моніка. Калі я ўвайшоў у хату, кінулася мне ў вочы ве багатае абсталяванне: усе крэслы плецёныя з лазы і выгнутыя гайдалкі. На стале стаіць бінакулярны мікраскоп з трыма аб'ектывамі: можа павялічваць у тры тысячы разоў; з гарошыны можа зрабіць вось гэты прыгожы круглы камень.

І я паказаў гладкі камень велічыні лёгкаатлетычнага ядра, які меў у сумцы.

— Гэта ягоны падарунак, — прадаўжаў я. — Запрасілі мяне за стол; чаго там не было з ежы і напіткаў! Найбольш мне аднак спадабаўся каньяк „Ківі" — духмяны ды салодкі. Лыжкі і відэльцы сярэбраныя, талеркі пазалочаныя... Сядзеў я там, быццам за сталом у нейкага магната Сапегі! Гутарка ішла лёгка. Згаварыліся мы і пра нашага павятовага лекара ветэрынарыі Парголя. Доктар Кульбіцкі сказаў: я Парголя знаю, а ён мяне — не, бо я канчаў ветэрынарыю ў Ольштыне. Гэты Парголь — дурань пятай роты! Багаты, купіў сабе дыплом. За цяжкія прадметы: біяхімію, фізічную хімію ды матэматыку аддаў два вепрукі ды стольki ж грашыма. І яшчэ адно: яго злавілі, як украў куртку з партфелем у аднаго студэнта, Мэця Крывіцкага. Другога студэнта пабіў каменем; сядзеў пяць месяцаў у турме. Вось які ён, Парголь! Дурань, невук, злодзей і хуліган. І тут я, прадаўжаў доктар Кульбіцкі, яму кланяцца не буду! Парголь мне нічога не зробіць, пляваць мне на яго: маю прызначэнне на пасаду з дэпартамента ветэрынарыі і ад ваяводскага лекара. І сам я цвёрды, як гэты камень!

Ветэрынарны фельчар не ўдзельнічаў у размове: усё матаў на вус. Ну, думаю, як пачнеш размотваць гэту хлусню, якое я нагаварыў, тады і сам заблытаешся і праваліішся. А вочы фельчара аж ззялі ад радасці, што ён перадасць гэткую навіну Парголю; фельчар усё прымаў за чыстую манету! Бо, і на самай справе, гэтую хлусню я гаварыў не да яго, а да Таркевіча.

Прыехалі мы ў Бельск. Кляшчэлеўскі *кундшафтэр* (ням. Kundschafter — разведчык) не сеў на цягнік, што адпраўляўся ў Чаромху, а хуценька і радасна пабег да Парголя. Вядома, хлусні нагаварыў я перад ім шмат. Парголь даў яму паперу і загадаў усё дакладна апісаць; пісаў ён да дзесяці ночы. За той час Парголь з'ездзіў у бюро і прывёз кіпу ветэрынарных кадравых прававых актаў. Калі ён прачытаў апісанне *кундшафтэра*, кінула яго ў істэрыку. Даносчык думаў, што Парголь парве яго на кускі: крычаў, хадзіў па хаце... Пасля сеў і пачаў пісаць. Пісаў, рваў, і зноў пісаў. Па твары фельчара сачыліся стужкі поту. Парголь падняўся з крэсла, прыступіў да фельчара і, вымахваючы кулакамі, паўтараў:

— Я невук, дурань, злодзей і хуліган... А!? Гэта праўда!? Ты ж знаеш мяне!? Ну, я яму пакажу, дзе сеюць гарох, ды пашлю яго туды, дзе Макар цяляты пасе, гэтага прафесара Кульбіцкага... Я яго так выкульбачу, што ён век з розумам не палапаецца!

Урэшце Парголь сеў і пачаў дрыжачаю рукою пісаць. Шукаў юрыдычных асноў, кідаў актамі па стале. Пісаў цэлую ноч. Раніцай фельчар паехаў цягніком дадому, а Парголь прыехаў у бюро і загадаў Людміле М. усё напісаць на машынцы.

Самыя вострыя пратэсты атрымаў дырэктар дэпартамента ветэрынарыі. Была на іх рэзалюцыя міністра: „Неадкладна даследаваць справу і далажыць мне. Віноўнага пакараць у адміністрацыйным парадку".

Адзін з лістоў (усе яны, разумеецца, былі падпісаны павятовымі старшынёю і сакратаром) быў накіраваны на пастарунак міліцыі. Быў там загад пасадзіць доктара Стэфана Кульбіцкага ў машыну і даставіць у Бельск. Няхай ведае той самазванец, што ёсць над ім павятовая ўлада!

Белавежская міліцыя паставіла ўсіх на ногі: шукалі Кульбіцкага па цэлай гміне і пушчы. Не найшлі. Пазваніў белавежскі камендант у Бельск, што такога ў Белавежы няма; ёсць толькі ветэрынарны лекар Дэмяшкевіч, ды ён пра новага лекара не чуў.

У Міністэрстве сельскай гаспадаркі дырэктар дэпартамента гарачыўся: пазваніў у Беласток і загадаў чакаць яго прыезду. У Беластоку далучыўся да яго ваяводскі лекар ветэрынарыі і разам паімчаліся проста ў Белавежу; у Бельск нават не заязджалі. Трэба ж пакараць нейкага прахвоста Кульбіцкага за яго дзёрзкасць і абман. Якое ж меў ён права прытварацца лекарам ветэрынарыі і паклёпнічаць на раённага!

Яшчэ раз паставілі ўсіх у Белавежы на ногі. А Кульбіцкі прапаў, як сабака на кірмашы. Нарэшце, пасля круглаcутачных пошукаў, камісія дайшла да вываду, што ніякага новага лекара ветэрынарыі Кульбіцкага Стэфана не было, а ўсё гэта выдумаў Парголь ды напісаў масу хлусні. Высокія чыны тэлеграмай зажадалі неадкладнага склікання павятовага прэзідыума з удзелам лекара ветэрынарыі Парголя.

На пасяджэнні прэзідыума вельмі востра гаварылася пра хлусню і пра тых, якія пад ёю падпісаліся. За гэта старшыня прэзідыума атрымаў строгі выгавар, а Парголь адміністрацыйнае вызваленне ад працы і абавязак аплаціць усе расходы на даследаванне справы. Такім вось чынам вылезла бокам Парголю яго заалагічная нянавісць да беларускай дзяўчыны Люсі М.

**Інж. Барыслаў Рудкоўскі**

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 20**

Ужо першы нумар „Нашай нівы" за 1909 год адкрывае новы віток зацікаўленняў тыднёвіка ўсходняй Беласточчынай. У гэтым нумары паявіўся абшырны артыкул Халімона з-пад Пушчы, які шырока апісаў бібліятэчны рух на Беласточчыне. Аўтар глыбока ахарактарызаваў тыя вёскі, у якіх пашыралі сваю дзейнасць бібліятэкі або тыя, у якіх узнікалі новыя бібліятэкі. Публіцыст пахваліў сялян з Орлі, Вітава, Ступнікаў, Трасцянкі і Райска за тое, што пастанавілі яны адкрыць бібліятэкі і знайшлі на гэта грошы. Найбольш аднак захапляўся Кленікамі, у якіх бібліятэка ўзбагацілася значнай колькасцю кніг і здабыла новых чытачоў.

„Ізноў жа, — піша публіцыст, — кленіцкая бібліятэка, каторая мае якіх 30—40 рублёў, дый тая ўжо лічыць каля тысячы розных кніг і 135 чалавек чытацеляў-мужыкоў.

За бібліятэкара ў ёй выбраны мужык Грыгор Федарук, каторы дарма без усякай карысці для сябе, дае кватэру пад бібліятэку і вядзе ўсе рахункі. Мужыкі падтрымліваюць яе таксама як толькі могуць. Напрыклад, збілі яны дзве шафы з сабраных на вёсцэ досак, дый пастанавілі даваць на бібліятэку ўсе грошы, якія атрымаюць за рыбу з свайго возера. Шчытоўская бібліятэка ўжо мае 700 кніг у акладках і 134 рублі 84 капейкі. У ёй бяруць кнігі 134 чытацелі. На Дубіцкую даюць кожны год па 55 рублёў і ўжо яна лічыць 200 кніг у акладках, дый чытацелёў мае ўжо 135 чалавек. Заўпраўляюць ёю толькі самы мужыкі".

Цытаваны артыкул быў ілюстраваны здымкам прыгожай хаты, у якой у Кленіках змяшчалася бібліятэка.

У трэцім нумары „Нашай нівы" за 1909 год быў змешчаны цікавы артыкул падпісаны С. Закута, у якім згадвалася аб тым, што сяляне вёскі Шчыты арганізавалі сельскагаспадарчае таварыства і хаўрусную краму. У гэтым нумары тыднёвіка паявілася балючая інфармацыя з вёскі Мялешкі, падпісаная Каршуном. Вось яе змест:

„Вёска Мялешкі, Беластоцкі павет, Гродзенская губерня. Шмат гора прыносіць гарэлка нашай вёсцы. Людзі адурманеныя ёю. Як звяры кідаюцца адзін на аднаго за абы-што, падымаецца гвалт, не раз і кроў пальецца. Мужыкі просяць Бога, каб агнём якім спаліў гэту гарэлку. Але мала Бога прасіць. Вось цяпер па закону мужыкі маюць права ўсёй валасцю зрабіць прыгавор, каб ніхто гарэлкі не трымаў, тады і манапольку закрыюць. Чаму ж яны гэтак не зробяць? З закрыццём манапολькі пьянства зменшылось; можа і колькі грошы тады асталося б і на кніжку і на паляпшэнне гаспадаркі".

У пятым нумары „Нашай нівы" была змешчана інфармацыя Халімона з-пад Пушчы, якая сваім характарам і настроем поўнасцю пярэчыла таму аптымізму, які праявіўся ў артыкуле таго ж аўтара, змешчаным у першым нумары тыднёвіка. Калі ў першым артыкуле публіцыст энтузіястычна пісаў аб развіцці бібліятэчнай справы ў Кленіках, Шчытах ды іншых беларускіх вёсках, то ў апошняй інфармацыі даў зусім іншае насвятленне гэтаму пытанню. Вось змест выказвання Халімона:

„Сяло Шчыты, Гродзенскай губерні Бельскага павету. Бібліятэка, заведзеная сельскім обчаствам, не мае саўсім грошы. Калісь валасці Кленікская і Пасынкоўская прыгаварылі даваць па 20 рублёў на бібліятэку, але дагэтуль ні капейкі не даюць. Мала шануюць нашы людзі кнігу і прасвету народную!"

Такой сумнай канклюзіяй заканчвае Халімон з-пад Пушчы сваю інфармацыю. Сведчыць яна аб тым, што як народнае школьніцтва, так і бібліятэчны рух развіваліся на Беласточчыне ў беларускіх вёсках з вялікімі цяжкасцямі і тармажэннямі.

**Алесь Барскі**

# Прадаўжэнне павінна быць

Думаю, што сп. Алесь Барскі павінен прадаўжаць свой цікавы цыкл п.з. „«Наша ніва» і ўсходняя Беласточчына". Цікава даведацца, што на ўсходняй Беласточчыне былі здольныя карэспандэнты, якія цікава пісалі і закраналі істотныя беларускія справы. Падпісваліся яны псеўданімамі, а цікава было б ведаць і пра іх сапраўдныя прозвішчы, і пра іх далейшы лёс. Буду вельмі ўдзячны, калі сп. Алесю Барскаму будзе пад сілу гэта прадаўжаць.

**Мікалай Панфілюк**

# Мінулае, сённяшняе і будучае Лазовага

Вось расказваў мне мой цесць, адкуль Лазова наша ёсць: з Ахрымоў папрыязджалі, лес на вэкслі пакуплялі, пасля рэзалі, рубалі і з-пад лесу зямлю дабывалі і карэнне выцягалі, потым сеялі-аралі. Небагата тут жылось, бо расла ано бульба, жыта і авёс. Як сказаў наш дзед Іван, усё весела жывецца нам. Рана птушкі так пяюць, людзям спаці не даюць, а зязюлі кукаюць, аж у вокны стукаюць. Маладзіцы маладыя, усе яны харошы. І сава сядзіць на дрэве, вытрашчыўшы вочы... На вячоркі тут хадзілі, гаманілі, табак курылі. Як заспявае баба Ульяна, а пацягне Надзя, а мой свекар любіў сцяваць, аж на зямлю сядзе!

Няма лепш як у Лазовым, сказаў раз лазовец: уся вёска так прыгожа, ну, як панскі дварэц. Рана птушкі ўсе спяваюць, а дзеткі смяюцца: блізка пасвяцца кароўкі, малачка нап'юцца.

Прыйшоў быў немец, вось бяда, выгнала нас з хат вайна. У Ляўкова павыязджалі і там хаты будавалі. А пасля бяды ўсе вярнуліся сюды. І зноў цяжка працавалі, клуні, хаты будавалі. Як стаў крыху лепшы час, маладыя пакінулі нас. Усе ў горад паўцякалі, а старыя паўміралі. Памерлі Сцяпан, Іван, Міша, Грыша, па іх удовы засталіся. А наш Коля нежанаты, ідзе з работы адзін, да пустое хаты. Тут і маці з ім жыла, але і яна ўжо ўмярла. Люба і Міша з намі тут таксама пражываюць, але вельмі іх шкада, бо дзяцей не маюць. На слупку каля хаты бусел пасяліўся, а што ў іх няма дзяцей, чамусьці забыўся!.. Оля ў Гайнаўку ўцякла (і сыноў забрала), тут і Настка ў нас была (яна з мужам не жыла; муж у Семяноўку ўзяў пайшоў, Верку, Гандзю там знайшоў). І Іванча тут жыла, па Іванаві ўдава, вясёлая баба была, ды ўжо старая стала, узяла ўпала, руку паламала і дачка яе забрала. І ў нас былі дзяўчаты, пайшлі замуж маладыя, засталіся мы, старыя. Але нас яшчэ ж трох у хаце, бо жыве з намі старэнькая маці. І зяці харошы ў нас трапіліся ў добры час: яны часта прыязджаюць, пра здароўе нас пытаюць. Як мы любім сваіх дзяцей і нашых унучанятаў, для іх удзень і ўначы адчынена хата! Як прыедзе з Саколкі мужаў брат, вось тады дамо мы ў чад! А ён часта прыязджае, пра сям'ю не забывае (ён лічыў і запісаў, колькі ў год к нам прыязджаў) — 36 разоў у год прыехаў і марознаю зімою і гарачым летам! Снег дарогі задувае, а ён нас не забывае. Яго дзеці такія мілы і не ганарацца, што на вёсцы ім звару, сядуць, наядзяцца. Яго жонка такая добра, такая хароша, і люблю яе за тое, што не дзярэ носа. 50 лет ён як пражыў, то на радзіме гасціну зрабіў. Як гасціну выпраўляў, усіх блізкіх паспрашаў; былі жончыны бацькі, і брацціхі, і браты. Аж да рання мы гулялі — будзем часта ўспаміналі.

Недалёка каля хаты цешыцца ядловец, што на свеце яшчэ ёсць праўдзівы лазовец!..

Яшчэ ў мужа ёсць сястра, часта прыязджае, прыязджаюць сюды і дзеці, дзе маці нарадзілася, пабыць, паглядзеці. Майго свекра ёсць сястра, называюць Барва, у Семяноўцы пражывае і ўжо сотку дажывае, а каго толькі спаткае, усё пра родных распытае і сваё дзяцінства часта ўспамінае, як у лесе каля хаты суніцы збірала і на полі край лужка вяночкі звівала... Недалёка на каліне зязюля кукавала. Ані брата ні сятры я ўжо не маю, а я мужаву сям'ю жду і выглядаю. На падворку стаіць дуб, дуб наш зелянецькі, пад ім многа выпілі госці нашы даражэнькі. І мужык мой трохі піў, а цяпер не п'е — хворы, сэрца не дае. А я вып'ю, закушу, яшчэ госцей прыпрашу. Нашы родныя то не ўсе, бо ўсё рэшта — панічы; яны не хочуць прыязджаць, пра Лазова ўспамінаць. Што ў Варшаве там жывуць — вельмі нагаварацца, што ў Лазовым нарадзіліся, не хочуць прызнавацца! Як маці памерла, дачка не прыехала з ёю папрашчацца!..

Ужо ўсё тут зарастае, а прырода ажывае. Поле дзікі нам аруць, а зязюлі ўсё куюць... Птушкі раненька спяваюць, а „козы смяюцца". Хутка ўсе тут паўміраюць, толькі лозы застануцца?

**Зінаіда Хаманьчук,**
**Лазова каля Новага Ляўкова**

Адгалоскі

# Крытыка не даходзіць!

На старонках „Нівы" часта паяўляюцца артыкулы, у якіх ставяцца рознага роду закіды ў адрас канкрэтных устаноў, прадпрыемстваў і г.д. На жаль, не ўбачыш ужо на тых жа старонках адказу крытыкаваных. „Ніва", вядома, разыходзіцца ў абмежаваным кругу, не трапляе наогул у польскамоўныя ўстановы. Калісьці быў такі звычай, што рэдакцыя пасылала надрукаваныя крытычныя матэрыялы крытыкаваным і праз нейкі час атрымоўвала адказы. Чытач мог зарыентавацца наколькі крытыка была трапная і што яна прынесла. Зараз можна крытыкаваць, паказваць недахопы без канца, а і так усё гэта застаецца без рэха. Можа ўсё-такі вярнуцца да колішняга звычаю? Інакш хіба няма вялікшага сэнсу выступаць на старонках нашага тыднёвіка з якой-колечы крытыкай?

**Пётр Байко**

**Ад рэдакцыі:** Цяпер установы не маюць абавязку адказваць на прэсавую крытыку. Роля друку — інфармаванне грамадства, якое на гэтай падставе можа выпрацаваць свой погляд і пакарыстацца ім падчас парламенцкіх ці самаўрадавых выбараў.

# Конкурс „Нівы"

Рэдакцыя „Нівы" аб'явіла конкурс ведаў пра Беларусь. Пачынаючы з 23 нумара ад 7 чэрвеня, у дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка змяшчаем пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Побач друкуем тры адказы, сярод якіх правільны толькі адзін. Правільны адказ трэба пазначыць крыжыкам.

Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, возьмуць удзел у жараб'ёўцы ўзнагарод: першая — 500 зл., другая — 300 зл., дзве трэція — па 100 зл., дзве падпіскі „Нівы" на 1999 год, два энцыклапедычныя даведнікі па культуры Беларусі. Спісак узнагароджаных будзе апублікаваны ў „Ніве" ад 30 жніўня.

Талоны просім дасылаць усе разам у адным канверце з паметкай: *Конкурс „Нівы"*.

**ТАЛОН № 7**

## Конкурс тыднёвіка *Ніва*

Родным горадам Марка Шагала з'яўляецца

- ❑ Мазыр
- ❑ Віцебск
- ❑ Орша

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніліся мне тры сны адначасна. Найперш прыснілася, што я іду на работу. Вуліца пустая. Ужо знаходжуся недалёка ад будынка, дзе я працую. З правага боку, дзе ў рэчаіснасці стаяць будынкі, у сне — пусты пляц. Ідзе там мужчына і я бачу, што ён глядзіць на мяне, ды ўжо і кіруецца ў мой бок. Я ўстрывожылася, прадчуваю, што мае ён нейкія кепскія намеры. Я пайшла хутчэй, але не бегла. Хацела дайсці да дзвярэй будынка, дзе я працую. Мужчына павярнуў у другі бок і пайшоў.

Далей сніцца, што я на рабоце. (Я працую на камп'ютэры). Камп'ютэр спалучаны з нейкім маторам. Я націснула адну кнопку, каб уключыць камп'ютэр — матор загарэўся. Я націснула яшчэ раз — успыхнуў яшчэ большы агонь. Я крычу, што гарыць камп'ютэр, але нікога ў пакоі няма.

Наступны сон. Па вуліцы побач з будынкам, дзе я працую, едзе ні то поезд, ні то штосьці іншае. Я ў гэтым поездзе сяджу, а насупраць сеў нейкі мужчына з маленькім дзіцём. Дзіцяці я не ўбачыла ў цэласці, але толькі яго галаву. Галава вялікая. Яно недаразвітае і гэты мужчына — яго бацька. Вязе дзіця з бальніцы. Потым я гляджу, а тое дзіцця ўжо ператварылася ў маленькае сабачаня, ці кацяня і бегае па падлозе. Бацька кажа, што гэта добра, бо так яно лечыцца.

**Ірына**

Ірына! Не маю чым цябе пацешыць: усе твае сны не прадвяшчаюць нічога добрага.

У першым сне ты ўцякала ад нейкага мужчыны, які ўстрывожыў цябе, бо спачатку глядзеў на цябе, а пасля і накіраваўся ў твой бок. Чакае цябе небяспечнае падарожжа (можа гэта быць толькі метафара), звязаная з тваёй працай, каля будынка якой гэта адбывалася.

Твой другі сон гаворыць за тое, што можа гэта быць нейкая хвароба (асабліва верагодная прастуда), а мо проста нейкая непрыемнасць на рабоце, паколькі пажар пачаўся ад камп'ютэра, на якім ты працуеш.

Што датычыць трэцяга сну, дык і ён сведчыць пра нейкую небяспеку для цябе, а прынамсі сумную справу. Ты ехала поездам, а да таго той мужчына меў пры сабе дзіця-калеку. Калі б дзіця было здаровенькае, прыгожае, здарылася б у тваім жыцці нешта радаснае, добрае. Але ж дзіця з твайго сну мела вялізную галаву і наогул было недаразвітае — справы пойдуць у кепскім напрамку, а да таго яно ператварылася ў сабачку ці ката, што таксама ў гэтым выпадку не варожыць нічога добрага.

**Астрон**

# Старшыню БНР абрабавалі

8 чэрвеня г.г. невядомыя злачынцы абакралі дом старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвілы.

Івонка Сурвіла жыве ў Канадзе, каля Атавы. У мінулым годзе яна была абраная старшынёй Рады БНР, якая ўжо дзесяткі гадоў дзейнічае за межамі Беларусі і называе сябе беларускім урадам у выгнанні.

З дому І. Сурвілы злодзеі скралі толькі тэлефонную сістэму з блокам памяці і камп'ютэрны сістэмны блок, у якім захоўвалася амаль уся перапіска і рабочыя матэрыялы старшыні Рады БНР. Пры гэтым зламыснікі пакінулі электронную тэхніку, творы мастацтва і іншыя каштоўныя рэчы. Паліцэйская брыгада, якая прыбыла на месца здарэння менш чым праз хвіліну пасля выкліку, заявіла, што крадзеж яўна здзейснілі „прафесіяналы".

**БелаПан**

*„Свабода", № 61, 10 чэрвеня 1998 г.*

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-mail: niwa@kurier-poranny.com

Internet: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Пачкаваны брыгадзір

Брытанскія вучоныя надумаліся адрадзіць маманта з найдзеных у Сібіры астанкаў. Мамант, гэта выкапнёвая жывёла, якая пражывала ў Еўропе ў ледавіковую эпоху. Навошта сёння брытанцам мамант — іхны сакрэт. Можа хочуць пазабаўляцца магутнаю жывою цацкаю, а можа толькі хочуць праверыць свае новыя метады вываду жывёл шляхам вегетатыўнага пачкавання, як гэта ўжо зрабілі яны з авечкаю. Гэты новы метад брытанцаў выклікаў ужо шмат пратэстаў сярод рознай масці маралістаў, якія супрацiўляюцца непрыроднаму размнажэнню. Маралістаў не ўсе і ўсюды слухаюць з належнаю пашанай. Напрыклад у Польшчы з абортамі праз тых маралістаў не выхілішся, а вось крыху больш на ўсход — вольнаму воля. А яшчэ ў нас наракаюць, што там няма свабоды! Даводзь там да колькі хочаш абортаў, абы было толькі здароўе, бо без здароўя бяда. Вось, напрыклад, такі хваравіты дыктатар Нігерыі генерал Сэні Абача прыняў самае вядомае цяпер лякарства *віягру* — мо думаў ён тады нешта пра аборты, а мо і зусім пра такія глупствы не думаў — а ягонае сэрцайка не вытрымала прынятай генералам нагрузкі і пайшоў ён на той свет. Мо хаця на гэным свеце будзе мець з тае віягры карысць, бо паводле ўяўленняў галоўнай у Нігерыі рэлігіі, чакаюць там яго свежанькія кабеткі. Бо генерал, як і ўсе дыктатары, быў напэўна чалавекам праведным і трапіў вось у такі рай.

Вось і ў нашай Беларусі, як усім напэўна вядома, цяпер рай і свабода; прынамсі ў дачыненні да абортаў. І пэўна ж там спрыяльная атмасфера і для новых навуковых эксперыментаў, хаця б такіх, якія праводзяць брытанцы. Можна тады спадзявацца, што самыя выдатныя генетыкі не спыняцца адно на авечцы і маманце, нават калі ў Вялікабрытаніі нейкі тамашні прэзідэнт выдасць указ забараняючы там, быццам у Польшчы аборты, вегетатыўнае пачкаванне. Тады тым вучоным генетыкам *добро пожаловать* у, напрыклад, Дразды. А агульнавядомае кіраўніцтва Беларусі сваімі паводзінамі дае падставы меркаваць, што тыя вучоныя будуць яму вельмі *кстати*. Бо ж праводзіць яно там працэс адраджэння мінулага, быццам ледніковай эпохі, шчасця. І напэўна, вяртаючы сталінскія сімвалы, хацела б тое кіраўніцтва вярнуць і самога Сталіна. Брытанскім генетыкам такая задача — *пожалуйста*!! Абы толькі быў генетычны матэрыял. І можна ж было б адрадзіць яшчэ і Леніна, і Суворава, і Івана IV. І то не па адным з іх, але па многа: для ўсіх заводаў і калгасаў. Вось старшынёю калгаса мог бы быць пачкаваны Сталін, партсакратаром — пачкаваны Ленін, брыгадзірам — пачкаваны Сувораў, важатым камсамолу — пачкаваны Іван IV. Тады і кіраўнік дзяржавы не мусіў бы *руководить на местах*, а сядзеў бы сабе ў сваім кабінеце і насалоджваўся б напрыклад, як кіраўнік Нігерыі Сэні Абача, віяграй; вядома — калі б была такая дзяржаўная неабходнасць.

Усё напісанае выглядае вельмі перспектыўна, аднак існуе адна вельмі каварная загвздка: гэта згаданы ўжо генетычны матэрыял. Вось расейцы знайшлі астанкі свайго апошняга імператара Мікалая II, але бяда ў тым, што няма стопрацэнтнай упэўненасці, што гэта акурат імператаравы астанкі. Маюць быць тыя астанкі ўрачыста пахаваны, аднак многія баяцца, каб з праведным расейскім імператарам не атрымалася тое, што атрымалася з адным польскім пісьменнікам, дарэчы майстрам гратэска і пародыі. Нейкія дапытлівыя захацелі паглядзець на яго ўрачыста пахаваныя астанкі і выявілі, што гэта астанкі нейкай жанчыны; магчыма, што ён, як гэта ў адным польскім анекдоце, загадаў, каб яго віяграмэту пахавацъ асобна. Тое ж самае можа здарыцца і з Леніным; ад гэтага няма стопрацэнтнай гарантыі. Замест Леніна брытанскія генетыкі могуць выпачкаваць не менш слаўную Ленінаву кухарку; і хто тады дапаможа кіраваць калгасам?

**Адам Маньяк**

Фрашкі пра нашых

## Франя кідае кампанію

Пераможа Наша Франя цыфры і бетон
І ўшчэнт разаб'е ворагаў палчышчы.
Чвэрць стагоддзя моцна трымала фасон
З гонарам і жартам, і сумленнем чыстым.

Вытрывала моцных, рашучых, слабых,
Буяноў, шахраяў, праведных і цудных.
Адрабіла рукі, правячы дурных,
Ды колькі ж дурнейшых мае слухаць мудры?

Цярпець колькі можна здзек і подлы зрок
Гладкае гадзюкі ў скуры каляровай?
Цяпер хай сама яна лічыць разоў сто
На пяючых оды пахвальныя хорам!

**Вандал Арлянскі**



Мал. Алега КАРПОВІЧА

## Пісацелі

Ён піша многа і гладка,
Але выходзіць гадка.
Ілжэ вельмі многа,
Што бярэ знямога.
Пісанінай яго завалены поўныя старонкі,
Што баляць чытаючы зубныя каронкі.
Такая яго, відаць, „пародa":
З нічога зрабіў пчалавода,
А мёд такі смачны, што пальцы ліжы.
Матку пчаліную, каб не чула, шнурком прывяжы.
Што ж, „Ніва" можа толькі ганарыцца:
Такі геній можа толькі ў снах прысніцца!

**Мікалай Панфілюк**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. для стральбы з лука, 7. упрыгожанне, якое жанчыны носяць на шыі, 8. пустазелле, 9. мука з падпражанага аўса, 10. пазнейшы перыяд каменнага веку, 14. перспектыўнае скарачэнне, 18. начальнік паліцыі ў царскай Расеі, 19. сусед уйгура, 20. наваколле населенага пункта, 21. разбурэнне ўзрывам.

**Вертыкальна:** 1. не прафесіянал, 2. кусок спарахнелага дрэва, 3. чорная таполя, 4. парадная зала для прыёму гасцей, 5. залатая, споўніла тры рыбаковы пажаданні, 6. усе ў пэўным асяроддзі (мн. лік), 11. яўрэйская школа для вывучэння Талмуда, 12. суседка Беларусі, 13. някемлівы чалавек, 15. вялікі гурт авечак, 16. сусед мангола, 17. злучэнне некалькіх плаўкіх цел.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 23 нумара**

**Гарызантальна:** выбары, Сасеба, лавіна, чары, неба, дваранства, кран, даха, жальба, Эрфурт, ліштва.

**Вертыкальна:** выдача, Рыла, Сана, балуба, віяланчэль, рыдван, Невада, кратэр, халява, жарт, Балі.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Муж пасля цяжкой аперацыі прыходзіць да прытомнасці, разглядаецца па наваколлі ды пытае:
— Дзе я: у раю?
— Але ж не, — адзываецца жонка пры ложку. — Бачыш жа, што я пры табе.

* * *

— Гэтая аперацыя маёй жонкі паглыне ўсе грошы з нашага банкаўскага рахунку, — бядуе муж перад лекарам.
— Дык вы хочаце плаціць за пахавіны?
— У ніякім выпадку: я не хачу плаціць ні за адно, ні за другое.

* * *

— Каця, як ты пазнаёмілася са сваім другім мужам?
— Падчас дарожнага выпадку: раз'ехаў першага.

* * *

— Па каго гэта прыехала хуткая дапамога?
— Па пана Мецыка.
— А што здарылася?
— Ударыў жонку.

* * *

Жонка, выбіўшыся з цярплівасці, крычыць у злосці:
— Калі толькі памрэш, адразу выйду за другога!
— Чаму ж мяне можа абыходзіць няшчасце нейкага чалавека, калі мяне ўжо не будзе.

* * *

— Напала на мяне двух жулікаў, — заяўляе муж жонцы вярнуўшыся дадому.
— Трэба гэта заявіць у паліцыю!
— Навошта? Абшукалі мне кішэні,ператраслі кашалёк, а пасля адзін з іх даў мне з літасці дзесяць злотаў на піва.

* * *

— З маім самаходам разумеюся лепш, чым з жонкаю, — кажа сусед суседу.
— Ведаю, бо часта бачу, як пасылае яна цябе спаць у гараж.